


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

14 СТУДЗЕНЯ 2000г. № 2/4034 КОШТ 65 РУБ.







# Ой, Калядачкі...



СЁЛЕТНІЯ Каляды ў Мінску былі вельмі сціплыя і праводзіліся толькі 7 студзеня (дзень Ражства Хрыстова) у парку Максіма Горкага і ўсяго на дзвюх сталічных пляцоўках. Будзем спадзявацца, што гэта з'ява часовая і звязаная толькі з нашай цяперашняю беднасцю. Тым болей хочацца шчыра падзякаваць усім, хто стварыў гэта свята для мінчан і хто прыняў удзел у святкаванні Каляд.

Распрацавалі і правялі Каляды супрацоўнікі кафедры рэжысуры народных святаў і абрадаў Беларускага універсітэта культуры на чале з яе загадчыкам П. Гудам.

А 12 гадзіне радыёінфармацыйная газета абвясціла пачатак Каляднага свята і Ражства Хрыстова. Вядучыя ў мажорным настроі зычна абвясцілі:

***Вялікую радасць на вуліцы, у хаты***
***Прынеслі Каляды — зімовыя святы.***
***Прынеслі забавы і жарты, і песні,***
***Загадкі і гульні, і танцы прынеслі.***

*(Працяг на стар. 2)*





# КОЛА ДЗЁН

***Ужо два тыдні як мы жывём у 2000 годзе. Цяпер можна смела сказаць, што наша краіна, як і ўвесь свет, нармальна перайшла праз гадзіну "пік", калі чакаліся не толькі збоі ў камп'ютэрах, а наогул сусветныя катаклізмы і нават... канец свету. Здавалася б, нарэшце можна спакойна жыць далей, але... У электронных сродках інфармацыі з'явілася паведамленне, што ў краінах Заходняй Еўропы распачалася эпідэмія грыпу, якая ўжо збірае свае ахвяры. На Беларусь жа, па прагнозах Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, грып "прыйдзе" праз два, максімум праз тры тыдні. Словам, не тое, дык другое...***

## *РАДАСЦЬ ТЫДНЯ*

У друку з'явілася інфармацыя, што з 1 студзеня 2000 года мінімалка павышана да 2 тысяч 200 рублёў. Адпаведна павышана стаўка першага разраду да 4 тысяч. Так што за студзень працоўныя нашай краіны атрымаюць амаль на 50 працэнтаў большыя зарплаты. Але толькі ў лютым...

## *НАЗНАЧЭННІ ТЫДНЯ*

З назначэннем Уладзіміра Пуціна выконваючым абавязкі прэзідэнта Расійскай Федэрацыі ва ўладных структурах Расіі пачаліся перастаноўкі. І гэта не дзіўна, бо на 26 сакавіка ў Расіі прызначаны прэзідэнцкія выбары, і, каб у іх перамагчы, трэба добра падрыхтавацца. Шмат высокіх чыноўнікаў, якія былі пры Ельцыну, пайшлі ў адстаўку або наогул на пенсію. Выконваючы абавязкі прэзідэнта РФ Уладзімір Пуцін вызваліў і Паўла Барадзіна ад пасады Упраўляючага справамі прэзідэнта Расіі. Аднак Барадзін без працы не застанецца. Яму прапанавана пасада Дзяржсакратара Саюза Расіі і Беларусі. Кандыдатуру Барадзіна на гэтую пасаду падтрымаў і Аляксандр Лукашэнка.

## *УЗНАГАРОДЖАННЕ ТЫДНЯ*

У Вялікім тэатры Расіі адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння расійскай прэміі за вышэйшыя дасягненні ў літаратуры і мастацтве "Трыумф" за 1999 год. Лаўрэатамі сталі — былы прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын, драматург Валодзін, дырыжор пецярбургскай Марыінкі Гергіеў, артыст Палунін і наш Васіль Быкаў. Ім былі ўручаны Залатыя знакі лаўрэатаў, упрыгожаныя дыяментамі. Прэміяльны фонд (фінансаванне Барыса Беразоўскага) склаў 250 тысяч долараў. Падчас урачыстасцяў Васіль Быкаў сказаў, што пакуль ён не збіраецца вяртацца з Фінляндыі ў Беларусь.

## *ПРАПАНОВЫ ТЫДНЯ*

Хто ездзіць на прыгарадным і міжгароднім пасажырскім транспарце, той добра ведае, што трэба мець немалыя грошы ў кашальку, каб, выехаўшы з Мінска, да прыкладу, у Гародню, вярнуцца назад. І вось зноў Міністэрства транспарту і камунікацый унесла ў Камітэт цэн пры Мінэканомікі прапановы аб павелічэнні тарыфаў на 43 працэнты. Вялікія лічбы тлумачацца нядаўнім падаражаннем паліва (бензіну — на 30 працэнтаў, дызельнага паліва — на 40 працэнтаў). Аднак нават такое павелічэнне тарыфаў, калі яно адбудзецца, усё роўна не вырашыць усіх праблем транспартнікаў.

## *ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Сёння для любога чалавека нашай краіны застацца без працы — гэта амаль катастрофа, бо на грошы, якія выплачваюцца па беспрацоўю, жыць несалодка. І таму за мінулы год на дапамогу ў пошуках працы ў службы занятасці звярнулася 284,4 тысячы чалавек. З іх 160,9 тысячы ўдалося працаўладкавацца. І ўсё ж на сённяшні дзень у нашай краіне існуе 95,4 тысячы чалавек, якія афіцыйна зарэгістраваны як беспрацоўныя.

## *ЗАРОБАК ТЫДНЯ*

У нашай краіне ва ўсе часы было так і цяпер нічога не змянілася — для таго, каб зарабіць для сям'і нейкую "лішнюю" капейку або наогул паесці, адны здаюць макулатуру, другія пустыя пляшкі, а трэція — уласную кроў. Кошты не вельмі высокія, але час ад часу і яны павялічваюцца. І вось у сувязі з тым, што з 1 студзеня 2000 года памер мінімальнай заработнай платы склаў 2,2 тысячы рублёў, з першага дня новага года былі павялічаны і грашовыя сумы, якія выплачваюцца донарам за здачу крыві. Цяпер за кроў (незалежна ад здадзенай колькасці) донар будзе атрымліваць 4 тысячы 290 рублёў. Адсутнасць градацыі ў выплатах у залежнасці ад колькасці здадзенай крыві тлумачыцца тымі абставінамі, што дзяржава аплачвае не саму донарскую кроў, а выплачвае донару кампенсацыю за два рабочыя дні ў памеры 45 працэнтаў ад "мінімалкі". Новыя "расцэнкі" за аднаразовы плазмафарэз складаюць 5 тысяч 940 рублёў, за двухразовы — 7 тысяч 590 рублёў, за ізаімунізацыю — 10 тысяч 890 рублёў. І тут некаторым грамадзянам Беларусі можна падумаць: ці лепей ісці здаваць кроў ці працаваць?

## *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

Колькі ўжо гаварылася і гаворыцца пра шкоду алкаголю, але праблема п'янства і алкагалізму для нашай краіны па-ранейшаму застаецца адной з самых сацыяльна значных. Паводле дадзеных Міністэрства аховы здароўя, летась спажыванне спіртных напіткаў у разліку на душу насельніцтва перавысіла ўзровень 1984 года, калі быў зафіксаваны пік. У наркалагічных установах краіны ў 1999 годзе знаходзілася 169 763 чалавекі, з іх 16 928 жанчын і 6 705 падлеткаў. На кожнага працаздольнага жыхара Беларусі ў год прыпадае 75 бутэлек моцных алкагольных напіткаў і 60 бутэлек віна. Выпітых...

## *РОСТ ТЫДНЯ*

Хоць цяпер і зіма, але ў нашай краіне тое-сёе расце. Растуць грыбы, растуць цэны, расце курс долара... Народ наш, праўда, да гэтага даўно прывык, і дзіва што, бо не першы год у нас такое і, відаць, не апошні. З беларускім рублём на афіцыйным рынку больш-менш спакойна. Аднак на "чорным рынку", а ён, нягледзячы ні на што, існуе, апошні курс куплі наяўнага долара ўжо дасягнуў 870 тысяч недэнамінаваных рублёў, а валютчыкі скупляюць СКВ па 900 тысяч.

## *ЦУДЫ ТЫДНЯ*

Мінулы год цэлае лета была сухмень. І, відаць, мала хто здолеў, як гаворыцца, адвесці душу ад гарадскога тлуму, збіраючы грыбы. Здавалася б, да новага грыбнога сезона яшчэ зусім далёка, але так ужо атрымалася, што ў лясах Брэстчыны, дзе няма снегу, з'явіліся грыбы. І людзі не разгубіліся і, хто з чым можа, пайшлі ў лясы, каб пазбіраць зялёнак і падзялёнак. Такія вось цуды беларускай прыроды...

*ВІНШУЕМ!*

# Знаёмыя, чаканыя...

З надыходам новага года мы чакаем... новых імёнаў. Імёнаў тых, каму будуць уручаны спецыяльныя прэміі фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры і мастацтва і прэміі "За духоўнае адраджэнне", заснаваныя Міністэрствам культуры і Беларускім экзархатам.

Цырымонія ганаравання лаўрэатаў адбываецца паводле традыцыі 7 студзеня, у дзень святкавання Нараджэння Хрыстовага праваслаўнымі вернікамі. І сёлета асаблівa ўрачыстую ноту надало ёй усведамленне сімвалічнасці моманту: сустрэча юбілейнага года, 2000-годдзе хрысціянства... На сцэне Дзяржаўнага музычнага тэатра (да нядаўняга часу — тэатр музычнай камедыі) былі ў гэты вечар людзі, добра вядомыя ў сваім прафесійным, творчым асяроддзі, знаёмыя многім прыхільнікам мастацтва. Узнагароды ўручаў Прэзідэнт А. Лукашэнка, сваё прызнанне таленрам зямлі беларускай выказаў таксама мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

Пяць прэмій "За духоўнае адраджэнне" 1999 года атрымалі: выкладчык гісторыі і сусветнай культуры СШ N 3 з Міёраў Вітольд Ермалёнак, святар Свята-Петрапаўлаўскага сабора сталіцы Андрэй Лемяшонак, мастак-рэстаўратар Уладзімір Ракіцкі, кампазітар Людміла Шлег і аўтарскі калектыў мастацтвазнаўцаў — Барыс Крэпак, Надзея Зелянко, Галіна Фатыхава, Мікалай Паграноўскі. Указам Прэзідэнта вызначаны памер прэміі — 100 мінімальных заработных плат, прычым прэміяваныя асобы вызваляюцца ад спагнання падаходнага падатку па сумах атрыманага ўзнагароджання.

Спіс лаўрэатаў спецыяльнага фонду больш ёмісты: у ім — нашы суайчыннікі, якія вызначыліся па 16 намінацыях за дасягненні ў тэатральным, выяўленчым, харэаграфічным, эстрадным мастацтвах, народнай творчасці, бібліятэчнай справе і г. д. Тут таксама няма нечаканасцяў, усе імёны — годныя, паважаныя, вядомыя. Як, напрыклад, мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" Віктар Скорабагатаў, мастацкі кіраўнік Акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы Людміла Яфімава, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў Рычард Смольскі, скульптар Уладзімір Лятун, адна са старэйшых педагогаў Беларускай акадэміі музыкі Ганна Зелянкова, салістка Нацыянальнага тэатра балета Беларусі Кацярына Фадзеева, юны спявак з Пінска Аляксандр Чаркас...

Дзяржава цэніць Талент і Працу, а гэта — знак яе лепшай будучыні.

**С. Б.**

*СУСТРЭЧЫ*

# Польскі інстытут: праца за год

Напрыканцы мінулага года Польскі інстытут у Мінску ладзіў нефармальную сустрэчу з грамадскасцю. На сустрэчы былі тыя, хто супрацоўнічае з інстытутам, хто спрыяе пашырэнню польскай культуры ў Беларусі. Гэта журналісты, літаратары, мастакі, навукоўцы, прадстаўнікі афіцыйных устаноў.

На сустрэчы быў распаўсюджаны прэс-рэліз аб дзейнасці Польскага інстытута ў 1999 годзе. Гэта навуковыя канферэнцыі, семінары, выставы, канцэрты, кінапрагляды. Самі арганізатары вылучаюць як найбольш цікавыя наступныя культурніцкія акцыі: спектакль Тэатра Восьмага Дня "Палын", фестываль перформансу "Навінкі-99", фотавыставу Яна Булгака "Віленская элегія", міжнароднае спатканне бардаў "Нябачны мур", фотавыстава Войцеха Пражмоўскага і Марыўша Хэрмановіча "Блізка і далёка", джазавы фестываль "Камерата запрашае сяброў", міжнародная канферэнцыя ў Нясвіжы, прысвечаная 450-годдзю з дня нараджэння М. К. Радзівіла Сіроткі; канферэнцыя, прысвечаная 10-годдзю Круглага стала; канферэнцыя беларусістаў "Шлях да ўзаемнасці", канферэнцыя "Універсітэты Ельскіх", прэзентацыя беларускага выдання парыжскай "Культуры".

Штомесяц Польскі відэаклуб прэзентуе тры сучасныя фільмы. Дзейнічаюць курсы польскай мовы і культуры (каля 300 слухачоў). Дзейнасць інстытута шырока асвятляецца ў беларускай прэсе.

З Польскім інстытутам пастаянна супрацоўнічаюць каля 30 арганізацый, грамадскіх і дзяржаўных. Гэта музеі, вышэйшыя навучальныя ўстановы, бібліятэкі, творчыя саюзы, галерэі, грамадскія фонды, канфесійныя і нацыянальныя аб'яднанні.

Дзякуючы інстытуту Беларусь наведалі больш як 60 асобаў з Польшчы. Зразумела, што ўсё гэ людзі невыпадковыя. Гэта навукоўцы, выкладчыкі вышэйшай школы, дзеячы культуры і мастацтва, урадавыя чыноўнікі, журналісты.

Не будзе памылкаю сказаць, што для многіх беларускіх інтэлектуалаў праграмы, якія ладзіць інстытут, з'яўляюцца "акном у Еўропу". Польскі вопыт эканамічнага і культурнага развіцця, польскі вопыт "развітання з камунізмам" для Беларусі надзвычай карысны. Бо Беларусь і Польшча — краіны сумяшчальныя псіхалагічна і могуць дапаўняць адзін аднаго ў эканамічным сэнсе. Праз польскую прызму і нашы ўласныя праблемы лепей бачныя.

Сёлета Польскі інстытут у Мінску мае намер не толькі захаваць існуючыя кантакты з беларускай грамадскасцю, але і пашырыць іх.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

# Ой, Калядачкі...

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

На галоўным уваходзе ў парк распачаліся калядныя перазовы, якія ўдала ўпісаліся ў агульны змест свята. Змястоўнымі і цікавымі былі калядныя праграмы студэнтаў 214 і 114 груп факультэта культуралогіі. Гэтыя праграмы былі звязаны са звычаямі і рытуаламі родных мясцін студэнтаў-удзельнікаў і надавалі рэгіянальны каларыт Калядам і Ражству Хрыстову. Гурт "Беларуская шляхта" з гонарам прадставіў культуру беларускага дваранства. Паміж праграмамі святочнага настрою радавалі ансамблі "Жалейка", "Вечарына", "Шчадрыца". У тканіну свята даволі арганічна ўпісалася калядная дыскатэка і малыя формы феерверку.



На цэнтральнай канцэртнай пляцоўцы адбылося нетрадыцыйнае тэатралізаванае адкрыццё свята. З прыгожа размаляванага чароўнага куфэрка, напоўненага дабром і прынесенага Калядою, дзед-Каляднік даставаў сімвалы святак і пытаў, якія з іх узяць у наступнае стагоддзе і тысячагоддзе. Дастаў Калядную зорку, маску Казы... Былі разыграны невялікі вясёлы спектакль. Цыганка варажыла і вясяліла ўдзельнікаў свята, дзеці ласаваліся аладкамі пад гукі песні "Ой, Калядачкі, бліны-ладачкі". Свята прыдоўжылі вядомыя ансамблі "Церніца", "Крынічанька", "Пасядзелкі", "Вербніца". Кожны з іх меў свой арыгінальны рэпертуар, прыгожыя строі і фальклорную адметнасць.

У гэты самы час на набярэжнай Свіслачы калядныя гурты студэнтаў Беларускага універсітэта культуры ўцягвалі ў калядныя гульні гасцей свята, выяўляючы свае прафесійныя веды, артыстычнасць і рэжысёрскія здольнасці.

І само свята і яго тэатралізаванае закрыццё з малымі формамі феерверку, пакінула прыемнае ўражанне, спадзяванне і веру ў жыццёвасць народных свят будучыні.

**Я. АДАМОВІЧ**

*На здымках: моманты свята.*

*Фота Ул. КРУКА*

АНОНС

# Тры дні джаза

Міжнародны фестываль джаза "Мінск-2000" прадстаўляе на канцэртнай сцэне Палаца Рэспублікі сузор'е музыкантаў сусветнага ўзроўню. Арганізатары імпрэзы — Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра Міхала Фінберга, Міністэрства культуры, упраўленне культуры Мінгарвыканкама прапануюць тры выбітныя праграмы (17—19 студзеня), якія ўключаюць выступленне славутай джазавай спявачкі з Германіі Паскаль фон Ураблеўскі, бенефіс лаўрэата міжнародных фестываляў і конкурсаў беларускага трамбаніста Дзмітрыя Бударына, знаёмства з летувіскім джазсекстэтам пад кіраўніцтвам Дэйніюса Пулаўскаса, у агульным канцэрце з якім сустрэнецца і DTS-band пад кіраўніцтвам Аляксандра Каліноўскага (калектыў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі). Удзел замежных гасцей забяспечаны фінансавай дапамогай спонсараў.



*На здымку: галоўны ўдзельнік праграмы "Віртуоз трамбона", саліст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Дзмітрый БУДАРЫН.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

# Юбілей беларускай праграмы Радыё Ватыкана

Сёлета Беларуская праграма Радыё Ватыкана адзначае 50-годдзе свайго заснавання. Першыя эксперыментальныя перадачы былі перададзены ў снежні 1949-га, а рэгулярна Беларуская праграма пачала працаваць 6 студзеня 1950 года. Трансляцыя з Апостальскай Сталіцы была наладжана дзякуючы вялікім намаганням выдатнага чалавека айца Пятра Татарыновіча.

Заснавальнік Беларускай праграмы ксёндз-прэлат Пётр Татарыновіч нарадзіўся ў 1896 годзе ў вёсцы Гайнін на Случчыне ў пабожнай каталіцкай сям'і. У 1919-м ён быў высвечаны на святара лацінскага абраду і да другой сусветнай вайны займаўся душпастырскай дзейнасцю ў розных мясцовасцях Беларусі. З 1945 года аж да сваёй смерці ў 1978 годзе айцец Пётр Татарыновіч працаваў у Рыме. Адначасова вучыўся ў Папскім Усходнім Інстытуце і займаўся выдавецкай дзейнасцю. 1950 год азнаменаваўся двума важнымі пачынаннямі, ініцыятарам якіх быў Пётр Татарыновіч. Шостага снежня свет пачуў беларускі голас Ватыканскага Радыё, а праз некалькі месяцаў пачала выходзіць газета "Зніч". Вось што напісаў айцец Пётр у першым нумары: "Браты беларусы. Ваша мова дачакалася найвышэйшага прызнання. Вы можаце карыстацца ёю ў кожную пятніцу а гадзіне 18.30, слухаючы Ватыканскія радыёперадачы на кароткіх хвалях".

Першыя пачынанні былі даволі сціплыя, перадачы выходзілі ў эфір толькі раз на тыдзень. У 1970 годзе, калі айцу Пятру Татарыновічу было ўжо 74 гады, ён перадаў кіраўніцтва Беларускай праграмы вядомаму беларускаму святару, архімандрыту Льву Гарошку. За гады яго працы колькасць беларускіх перадач Радыё Ватыкана павялічылася да пяці ў тыдзень.

Айцец Леў Гарошка нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Трашчычы, Стаўбцоўскага павета. Пасля вывучэння багаслоўскіх навук у Львове і ў аўстрыйскім горадзе Інсбрук, ён быў высвечаны на святара ў грэка-каталіцкім абрадзе ў Львове. Да канца другой сусветнай вайны айцец Гарошка займаўся душпастырствам і асветніцкімі справамі на Беларусі. У 1945 годзе ён зарганізаваў беларускае душпастырства ў Берліне, а пасля ў Мюнхене. У верасні таго ж года айцец Леў прыбыў у Рым і праз год выдаў малітоўнік "Божым Шляхам". Айцец Гарошка займаўся душпастырскай дзейнасцю сярод беларусаў у Францыі, дзе быў рэктарам місіі, а таксама ў Лондане да 1970 года. Айцец Леў кіраваў Беларускай праграмай Радыё Ватыкана і адначасова выконваў абавязкі рэктара Беларускай Каталіцкай Місіі ў Францыі. Ён напісаў некалькі кніжак, сярод якіх найбольш вядомая "Навука і Рэлігія".

У 1977 годзе, падчас хірургічнай аперацыі, айцец Леў Гарошка памёр у парыжскай бальніцы.

Яшчэ ў 1974-м да рэдакцыі Беларускай праграмы далучыўся грэка-каталіцкі святар, доктар навук, мовазнаўца, айцец Роберт Тамушанскі. Ён нарадзіўся ў Амерыцы, у беларускай сям'і. Пасля смерці айца Гарошкі, ён стаў новым адказным кіраўніком беларускіх праграм, і ўжо з 1983 года яны пачалі гучаць штодзённа. На жаль, айцец Тамушанскі заўчасна памёр у 1996-ым, але за тыя 19 год ён вельмі многа зрабіў для Беларускай праграмы. На сённяшні дзень у яе выпуску стала ўдзельнічаюць чатыры асобы: Алена Мартэцкая, Янка Мойсік, Андрэй Пятчыц і кіраўнік праграмы айцец Клод Робінэ. Ён па паходжанні бельгіец, езуіт, на Ватыканскім Радыё працуе ўжо другое дзесяцігоддзе і заўсёды быў вялікім прыхільнікам беларусаў. Айцец Клод ужо двойчы паспеў пабываць у Беларусі, каб пазнаёміцца з яе жыццём і набыў тут шмат сяброў. Дзеля Беларускай праграмы працуюць таксама і вонкавыя супрацоўнікі ў Беларусі і за мяжой.

Беручы пад увагу становішча Царквы ў Беларусі, асабліва недахоп святароў, перадачы Радыё Ватыкана маюць асаблівае значэнне. Для многіх гэта, бадай, адзіная магчымасць атрымаць нейкія рэлігійныя веды. Беларуская праграма большую частку свайго часу прысвячае перадачам рэлігійнага зместу (навучанне праўдаў Веры, дзейнасць і апостальскія падарожжы Святейшага Айца Папы Яна Паўла II, весткі аб дзейнасці Апостальскай Сталіцы, навіны з рэлігійнага жыцця, культурныя і гістарычныя тэмы з асаблівай увагай на хрысціянскія карані беларускай культуры, нядзельныя гутаркі для рыма-каталікоў). Такім чынам для многіх беларускіх слухачоў Беларуская праграма з'яўляецца лучнікам з Сусветнаю Царквою. Увогуле ж Радыё Ватыкана перадае свае праграмы на ўвесь свет, круглыя суткі на 30 мовах свету. І Беларускую праграму Радыё Ватыкана таксама можна пачуць кожны вечар у 20.00 гадзін паводле мінскага часу, на кароткіх хвалях 41 і 49 метраў, а таксама на сярэдніх хвалях. Раніцай, у 6.20, на тых жа хвалях перадаецца паўтор. Беларуская праграма Радыё Ватыкана віншуе ўсіх жыхароў Беларусі з Нараджэннем Хрыстовым і з Новым, юбілейным, 2000 годам. Калі нехта захоча напісаць у Беларускую праграму, яго ліст не застанецца без увагі, наш адрас:

*Programma Bielorusso*
*Radio Vaticana*
*00120 Citta del Vaticano*

КОНКУРСЫ

# "Скарына ў маім уяўленні"

Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны абвясціў міжнародны конкурс вучнёўскіх і студэнцкіх прац "Скарына ў маім уяўленні". Паводле ўмоў гэта могуць быць вершы, апавяданні, эсэ, графічныя работы, малюнкі і г.д. Карацей, самыя разнастайныя мастацкія вербальныя і візуальныя формы.

Працы прымаюцца да 15 траўня. А ў трэцяй дэкадзе траўня будуць падведзены вынікі конкурсу. Вызначэннем лаўрэатаў зоймуцца самыя аўтарытэтныя асобы ў галіне беларусістыкі — удзельнікі скарынаўскай секцыі III Кангрэсу Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, што мае адбыцца якраз у гэты час.

Між іншым, названае мерапрыемства не выпадковае, а праводзіцца ў межах ажыццяўлення адмысловай канцэпцыі належнага развіцця нацыі. Як лічаць у Скарынаўскім цэнтры, асноўнымі кірункамі тут павінны быць хрысціянства і беларускі патрыятызм. Таму зварот да каштоўнай спадчыны Скарыны заканамерны. Тым больш што да канца яго спадчына не асэнсавана і не ўсвядомленая. Як кажа дырэктар Цэнтра Любоў Улыдкоўская-Канаплянік, неабходна "актуалізаваць традыцыі". У тым ліку варта было б як мага шырэй выкарыстоўваць у свецкай культурніцкай дзейнасці ідэалы пакуль манапалізаванага царквой і дзяржавай хрысціянства.

Скарынаўскі цэнтр намагаецца заахвоціць да гэтага грамадскасць, асабліва моладзь. Прычым, сутнасна, а не праводзіць акцыі дзеля акцый. У снежні быў арганізаваны міжнародны "круглы стол" "Мы — са Скарынай, Скарына — з намі". Працяг канкрэтнай справы — абвешчаны конкурс, скарыніянскія працы на які дасылайце на адрас: 220050, *вул. Рэвалюцыйная, 15. Тэлефон для даведак: 220-93-50.*

**К. П.**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

## "Жывая вада" славянскай зямлі

Выйшла ў свет чарговае аб'яднанае выданне "Жывая вада" журналістаў абласных газет Гомельшчыны, Браншчыны, Чарнігаўшчыны, Жытоміршчыны, Віцебшчыны і Смаленшчыны. Свяночны навагодні нумар расказвае пра эканамічныя сувязі абласцей трох братніх народаў, шмат увагі надае культуры, літаратуры і мастацтву. У нумары старшыня абласной пісьменніцкай арганізацыі Васіль Ткачоў дзеліцца думкамі аб творчых стасунках паміж празаікамі і паэтамі Гомельшчыны, Браншчыны і Чарнігаўшчыны, да якіх сёлета далучыліся калегі з украінскага горада Цярнопаля. Выданне таксама друкуе матэрыялы пра міжнародны фестываль фартэпіяннай музыкі ў Гомелі, выставу "Дзве тысячы год хрысціянству" ў сярэдняй школе N 19, віцебскага скульптара А. Гвоздзікава — аўтара помнікаў М. Шагалу, М. Сільніцкаму, дзецям М. Шмырова (бацькі Міная).

## Узнагароды маладым

Летась гарвыканкам распрацаваў і прыняў праграму па далейшым развіцці культуры і мастацтва. Быў створаны спецыяльны фонд для яе фінансавання. Праграмай прадугледжана і дапамога таленавітай моладзі. Устаноўлены прэміі па 12-ці намінацыях для тых, хто найбольш праявіць сябе ў фестывалях, конкурсах, алімпіядах... І вось гэтымі днямі пераможцы сабраліся для атрымання ўзнагарод. Іх віншавалі старшыня гарвыканкама А. Якабсон, дзеячы культуры і мастацтва, прадстаўнікі розных грамадскіх арганізацый.

## Майстар керамікі

Сябра Саюза мастакоў Міхась Кляцкоў — знаны кераміст. Яго дэкаратыўныя наборы "Беларускі", "Сялянскі", "Сувенірны", "Калядны" ўпрыгожвалі экспазіцыі самых прэстыжных выстаў. Кляцкоў — і аўтар дэкаратыўных ваз "Лета", "Космас", "Веснавое Палессе", скульптур "Мая Беларусь", "Францыск Скарына", партрэтаў-барэльефаў пра вядомых на Гомельшчыне герояў мінулай вайны. Майстар, які адзначыў 50-гадовы юбілей, падрыхтаваў новую серыю работ, асноўным матывам якіх стаў беларускі фальклор і нацыянальныя традыцыі нашага народа. Лепшыя творы гамяльчане ўбачаць на персанальнай выставе Кляцкова.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБСК...*

## Ушаноўваючы Багушэвіча

Абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў, абласная арганізацыя Саюза мастакоў, мясцовая рада Таварыства беларускай мовы і літаратурны музей аб'явілі конкурс "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай..." на лепшы літаратурна-публіцыстычны і мастацка-графічны твор. Конкурс праводзіцца з нагоды 160-гадовага юбілею з дня нараджэння і сотых угодкаў з дня смерці Францішка Багушэвіча. Узрост удзельнікаў — ад 12 да 20 гадоў. Да разгляду прымаюцца вершы, апавяданні, нататкі, прысвечаныя роднаму краю, беларускай мове, а таксама ілюстрацыі да твораў беларускай літаратуры. Вынікі конкурсу будуць падведзены да 20 сакавіка.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎ...*

## У аркестры толькі жанчыны

Амаль 23 гады пад дахам магілёўскага універмага "Цэнтральны" існуе аматарскі жаночы аркестр "Ліра". Гэты калектыў, які кіруе Васіль Парашчанка, добра вядомы жыхарам Магілёва, бо без яго не абыходзіцца ніводнае гарадское свята. Нягледзячы на тое, што "Ліра" — аматарскі аркестр, яго ўдзельніцы падыходзяць да сваёй справы надта прафесійна. Аб гэтым сведчаць шматлікія дыпломы, граматы і ўзнагароды за перамогі ў гарадскіх, абласных і рэспубліканскіх конкурсах і фестывалях. Дарэчы, летась "Ліра" атрымала Гран-пры на рэспубліканскім аглядзе-конкурсе работнікаў гандлю.

## Музейнае свята

30 снежня Крычаўскі краязнаўчы музей адзначаў сваё 40-годдзе. Зараз тут адкрыта выстава, прысвечаная юбілею музея і яго заснавальніку і першаму дырэктару, заслужанаму работніку культуры Беларусі Міхаілу Фёдаравічу Мельнікаву. У свой час вялікую дапамогу ў арганізацыі музея аказвалі яму вядомыя вайскоўцы і пісьменнікі. Часта ў госці да Мельнікава прыязджалі Сяргей Смірноў і Канстанцін Сіманаў... Зараз справу бацькі працягвае Наталля Марозава, якая з'яўляецца дырэктарам музея.

## Рамонт завяршыўся

Прайшоўшы год для Магілёўскага абласнога тэатра лялек быў удалым не толькі таму, што калектыў паспяхова ўдзельнічаў у міжнародных конкурсах, якія праходзілі ў Разані, Вінніцы і Мінску, але і таму, што дзякуючы фінансавай падтрымцы ўпраўлення культуры аблвыканкама, урэшце завяршыўся рамонт будынка тэатра. І лялечнікі змаглі адкрыць 23-ці тэатральны сезон новай пастаноўкай мастацкага кіраўніка тэатра Алега Жугжды "Чароўнае люстэрка". Яна радавала дзяцей на працягу ўсіх калядных канікулаў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*БРЭСТ...*

## 82 гады — 28 танцаў!

Нядаўна на Кобрыншчыне працавала фальклорная харэаграфічная экспедыцыя на чале з выдатным знаўцам народнага сцэнічнага танца Мікалаем Казенкам. І сабрала тут багаты здабытак, запісаўшы каля сотні самабытных харэаграфічных твораў. Асабліва пашанцавала збіральнікам у вёсцы Плянта. Толькі адна тутэйшая 82-гадовая жыхарка Таццяна Лявонаўна Кандрацюк паказала ім 28 народных танцаў, якія яна палюбіла, якімі захаплялася яшчэ ў маладосці.

## "Чарнавікі..." і "Крылатыя спонсары" Міколы Папекі

Летась адметнымі публікацыямі ў часопісе "Крыніца", газеце "ЛіМ" і іншых выданнях заявіў пра сябе паэт з Пружаншчыны Мікола Папека, пчаляр па прафесіі. А зусім нядаўна ў Брэсце выйшаў яго першы зборнік "Чарнавікі..." Вершы, сабраныя пад адной вокладкай, яшчэ больш засведчылі пра Папеку як пра самабытнага прадстаўніка сучаснай пошукавай паэзіі, філасафічна заглыбленай і метафарычнай. Шмат у якіх творах прысутнічае вобраз пчалы — сімвал жыцця і нястомнай руплівасці. Кніжка, дарэчы, выдадзена за кошт аўтара, таму і пачынаецца яна падзякаю паэта-пчаляра сваім "крылатым спонсарам" — пчолам...

Застаецца дадаць, што зборнік выйшаў у вядомай ужо серыі "Берасцейскае вогнішча" і што прадмову да яго напісаў старэйшы сябар паэта Мікола Купрэеў.

**Сымон АКСЕНІН**

***Даўно, на пачатку XX стагоддзя, класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч у адным са сваіх вершаў зрабіў спробу паліталагічнага прагнозу лёсу нашай краіны. І прагноз той быў даволі аптымістычны: "Беларусь, твой народ дачакаецца / Залацістага яснага дня..."***

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

# Беларусь паміж Сцылай і Харыбдай

Адносна ж фактычнага зместу таго "прагнозу", то, мяркуючы па ўсім, паэт быў занадта вялікім аптымістам. Над Беларуссю ўсё XX стагоддзе неба заставалася пахмурным і толькі ў канцы яго было выглянула сонейка, каб зноў схавацца за цяжкімі свінцовымі хмарамі... І тое не дзіва, бо самастойна ўплываць на надвор'е ў сваім доме за мінулыя дзесяцігоддзе беларусы так і не навучыліся. Яго ўсё болей уладна стала вызначаць не нашая ўласная воля, а "магнетызм" магутных суседзяў. І куды б мы ні круцілі галавою ў спадзяванні свежага ветру, што разгоніць урэшце чужыя хмары, на нас з аднаго боку сурова глядзела сваімі бязлітаснымі "раскосыми глазами" скіфская Сцыла з шырокай і бесшабашнай, як яе бяскрайнія прасторы, душой (гэта яна і падарыла нам свой тып улады!), а з іншага — педантычная і скупая, як Габсек, заходняя Харыбда, у вачох якой тае літасці было не болей, але праглядалася заўсёднае асуджэнне, уперамешку з пагардаю.

На Беларусі на мяжы XXI стагоддзя і III тысячагоддзя Эры Хрыстовай імкліва разгортваецца глыбокая драма аднаго са старажытных славянскіх цэнтральнаеўрапейскіх этнасаў, які воляю лёсу размешчаны паміж молатам і кувалдай двух магутных энергетычных полюсаў з супрацьлеглымі знакамі. А, як вядома, процілегласці прыцягваюцца... Вось і хінуцца праз нашыя бедныя галовы адно да аднаго многімі стагоддзямі ў нейкай невытлумачальнай, вычварна-садамазахісцкай любові два розныя светы, дзве надзвычай своеасаблівыя светапоглядныя сістэмы, істотна блытаючы сваімі моцнымі энергетычнымі палямі нашую свядомасць...

Цяпер мы можам з вялікай доляй верагоднасці і без аніякай іроніі канстатаваць, чаго насамрэч дачакаўся народ Беларусі, наколькі стаў відушчым урэшце гэты "цёмны, сляпы быццам крот" у часы Максіма этнас. Мы нават можам сёння, маючы якую-ніякую аргтэхніку, падлічыць сапраўдныя рахункі нашага быцця, чаго мы дасягнулі, да чаго прыйшлі (дакаціліся?) за мінулыя 200, 100, 5 гадоў свайго існавання, у якой якасці пераступаем мяжу не толькі стагоддзя, але і тысячагоддзя. Разумная кампутарная праграма выдасць нам без аніякіх эмоцый, ужо не кажучы пра іронію, які насамрэч "капітал" мы маем перадаць сваім наступнікам па "баявой эстафеце пакаленняў". Яна бесстаронне распавядзе нам, што прыйшлі мы на фініш стагоддзя і тысячагоддзя з вялікім друзам амаль неырашальных праблемаў. Яе халодны манітор суха адлюструе, што ледзь не чвэрць нашай зямлі густа засмечана радыенуклідамі, што беларуская эканоміка на дзесяткі гадоў (а мо і назаўсёды!) адстае ад цывілізаванага свету, што 20 адсоткаў нашых вёсак ужо знікла з твару зямлі, што амаль 80 адсоткаў з нас (у тым ліку дактары навук і прафесары!) балансуе на мяжы жабрацтва, што нацыя ўрэшце пачала вымiраць. (Ужо ў канцы 1998-га статыстыка зафіксавала, што нас нарадзілася менш, чым памерла!) І што ўвогуле перадаваць далей уласна мала чаго засталося...

## I

А вось тут мы, мусіць, крыху перабралі! Нашчадкам сёння ёсць што перадаць... У першую чаргу — заключаную напрыканцы 1999-га, дзякуючы тытанічным высілкам нашага кіраўніцтва, Дамову аб Саюзе Беларусі і Расіі... О, гэты шматпакутны Саюз! Колькі ж вакол яго было наламана дроў, і колькі сказана слоў! Тымі дровамі і словамі можна было сагрэць не толькі халодную Расію, дзе зіма кідае народ у спячку на паўгода, але растапіць Антарктыду!..

У звязку з гэтым згадалася адна рэальная гісторыя, якую расказваў калісьці мой бацька. У невялікай беларускай вёсцы, дзе ён нарадзіўся, жылі калісьці два суседы — Сцяпан і Саўка, па іроніі лёсу — цёзка вядомага літаратурнага персанажа. Першы быў вельмі моцны гаспадар, ды і сам з сябе відны чалавек. А Саўка і як гаспадар, ды і з выгляду — так сабе... Саўкава жонка літаральна з'ядала мужа: "Вучыся, рабі, як у суседа!" Той, небарака,і вучыўся... Збіраецца Сцяпан араць, і Саўка каня запрагае. Едзе той на кірмаш, і Саўка за ім ззаду паўзе. Сапраўдным ценем суседа стаў. Даходзіла да таго, што калі Сцяпан пачынаў сваю жонку ганяць вакол хаты, то тут жа і Саўка за пугу хапаўся. Ды вось на гаспадарцы Саўкавай ад такога "пераймання" нічога не ладзілася — і ўраджаі сталі горшымі, нават чым былі, і гандаль на кірмашы ніякі, і карова дрэнна даілася, і нават куры якія амаль перасталі несці... Усё, здавалася б, рабіў Саўка "па Сцяпану", а справы ішлі ўсё горш і горш...

А ў тыя часы (то былі 20-ыя гады) ужо з'явілася мода на камуны, калі некаторыя найбольш бедныя гаспадары добраахвотна гуртаваліся, каб супольна пераадолець жыццёвыя праблемы. Вось у святле гэтых навацыяў і пачала Саўкава жонка ўгаворваць мужа і суседа аб'яднаць свае гаспадаркі — маўляў, "гуртам і бацьку біць лягчэй!" Сцяпан згадзіўся неяк падазрона лёгка, а Саўка нейкі час вагаўся, адчуваючы сэрцам небяспеку. Але ўрэшце не ўстаяў перад жорсткім прэсінгам сваёй паловы...

Ды толькі тая камуна са Сцяпанам не прынесла Саўкавай сям'і шчасця. Іхняя "інтэграцыя" скончылася тым, што Саўка, разам са сваім канём і "мудраю" жонкаю пачаў у Сцяпана батрачыць... Урэшце небарака зусім разарыўся і вымушаны быў завербавацца на ўдарныя будоўлі "пяцігодкі", якіх, балазе, на той час ужо не бракавала. А ягоная гаспадарка, зразумела, дасталася Сцяпану. Праўда, толькі да калектывізацыі. Падчас яе Сцяпан за сваю прагнасць паплаціўся спаўна...

## II

Дамова аб Саюзе Беларусі і Расіі, як вядома, ужо не першая на даволі зацягнутым інтэграцыйным маршы і нават для спецыялістаў яе складана адрозніць ад папярэдніх, нягледзячы на шматлікія і вельмі змястоўныя тлумачэнні нашага галоўнага начальства. Ацэньваюць тую дамову розныя людзі па-рознаму, але тое, што яна гістарычная і сімвалічная для нашага народа, дык гэта факт. Гістарычная не ў сэнсе грандыёзнага прарыву беларусаў да цывілізацыі і дабрабыту. Куды яны насамрэч "прарваліся", непрадузята фіксуе сёння нават афіцыйная статыстыка. І сімвалічная не ў плане здзяйснення векавечных памкненняў нашых беларускіх Савак жыць пад адным дахам са Сцяпанамі-Іванамі. (Памкненні тыя ніколі ў нашай гісторыі не былі аднaзначнымі і ўсеагульнымі, а сёння — тым болей.) Сімвалічная паводле канкрэтнага часу яе падпісання. Нашая краіна ўжо страціла аднойчы сваю незалежнасць на цэлых 200 гадоў, якраз на мяжы стагоддзяў — XVIII і XIX. Вось і цяпер, на стыку XX і XXI стагоддзяў, не паспеўшы адолець нават "дзіцячы" ўзрост у якасці суверэннай дзяржавы, яна зрабіла грунтоўную заяўку на паўтор пройдзенага...

Дык што, гісторыя сапраўды круціць свае "фокусы" па спіралі? Ці ёсць у беднага Саўкі, насельніка гэтага, не раз пакаранага Богам краю, хоць нейкае права выбару ў лёсаносныя моманты? Ці зноў "парадам" камандуе персанальная воля якой-небудзь заядлай "жонкі"? Няўжо сапраўды стала сістэмай у беларускай гісторыі, што вызначальнай у ёй зноў не воля народа? А з іншага боку — ці так усё проста? Ці не ёсць яшчэ нейкая іншая, незразумелая нам пакуль што воля?

Вядома ж, на ўсе гэтыя рытарычныя і бездапаможныя пытанні знойдуцца пэўныя, выверaныя ўсё тым жа бессардэчным кампутарам і напоўненыя грунтоўнай аналітыкай, адказы. Але яны ніколі не суцешаць і не аблегчаць нам душу, бо гэта будзе толькі павярхоўная схема стасункаў, грамадскіх і чалавечых, у якую, на жаль, не ўкладваюцца нашыя стасункі з Найвышэйшым.

А яны, трэба сказаць, моцна (калі не зусім!) папсаваныя, прычым, відаць, ужо даўно. Немагчыма зараз вызначыць, хто першы з нашых амбітных продкаў кінуў небу прамы выклік і папёр, як кажуць, рогам. Што б мы сёння ні казалі пра гістарычныя, палітычныя і эканамічныя заканамернасці развіцця нашага грамадства, нацыі, яны, гэтыя заканамернасці на фоне нашых стасункаў з Богам не каштуюць і выеdзенага, хоць і часам дэфіцытнага сёння, яйка. У сваёй масе мы, беларусы, так і не знайшлі пакуль што свайго ўласнага шляху да Яго. Як і да саміх сябе.

## III

І сапраўды, навошта нам, напрыклад, здалася нашая самаідэнтыфікацыя? (Цьфу ты, слова якое!) Навошта нам нейкае сваё адметнае аблічча? З ім — адныя праблемы. Нашмат зручней быць падобным на ўсіх, асабліва на больш моцнага суседа.

Нам не адно стагоддзе і з усіх бакоў прапануюцца "маршрутныя карты", дзе распісаны кожны наш крок і кожны "чых" на шмат гадоў наперад. І таксама гатовыя радаслоўныя, дзе настойліва ўнушаюць, што бацькі ў нас агульныя. Мы імі і карыстаемся, хаця ніхто ніколі яшчэ нам не даказаў насамрэч, што тое праўда. Замест грунтоўных доказаў — крык і гвалт. Ісціна застаецца за тымі, хто крычыць больш гучна і пранізліва. Але нягледзячы на гэта, мы ўсё роўна, як сляпыя кацяняты, тыкаемся ва ўсе бакі і чамусьці аніяк не выходзім да пэўнае мэты. Нешта ў тых "маршрутах" і радаслоўных, відаць, не так, як мае быць...

Тое не значыць, што праваслаўныя, каталіцкія, азіяцкія, еўрапейскія, амерыканскія і г. д. "маршрутныя карты" дрэнныя і нам цалкам непрыдатныя. Яны слушныя і "богоугодные", але для пэўнага нацыянальнага, этнічнага, сацыяльнага кантэксту... Гэта мы нейкія, мякка кажучы, нестандартныя, бо як бы нас ні атаясамлівалі з палякамі, украінцамі, летувісамі і асабліва з рускімі, мы не ўкладваемся ні ў адно з гэтых нацыянальнадухоўных рэчышчаў. З нашага нацыянальнага "мяшка", як тое шыла, выпіраюць нейкія незразумелыя і дзіўныя загагуліны, што выяўляюць спаконвечную паганскую самасць, грэшную, відаць, ужо па сваёй дэманічнай сутнасці. Грахоўны "баланс" намі даўным-даўно парушаны, і мы выбралі ўжо ўсе "ліміты". Далей — няма куды... Дакладней, ёсць куды — наўпрост у пекла. Або... у Расію...

Адсюль заўсёдная няўцямнасць нашых духоўных імператываў і няпэўнасць нашага "маршруту", што, зрэшты, і з'яўляецца відавочнымі прыкметамі вялікай драмы нашага этнасу. (Уявіце чалавека, які дрэнна ведае навошта жыве, і што рабіць далей...) І ўжо калі з'яўляецца зрэдчас які-небудзь імпэтны, з "месіянскімі" задаткамі, павадыр, што абяцае найкарацейшае выйсце з жыццёвага лабірынту, то мы і прымаем яго ледзь не за Бога. Нам галоўнае куды-небудзь рухацца! І так не адно стагоддзе...

Можна спрачацца, што, маўляў, іншыя народы (тыя ж немцы, французы, ангельцы) награшылі столькі, што не паднесці... І нічога — жывуць сабе сёння, як у Бога за пазухай. Жывуць... Але гэтыя нацыі, відаць, здолелі свой "баланс" утрымаць і засяродзіцца на галоўным і сур'ёзным. А ў нас сотнямі гадоў працягваецца сваё, вельмі адметнае вяселле (свадьба) (цяпер яно ў разгары!), з усімі належнымі атрыбутамі, з маладым і з маладою, з дружкамі і дружбанамі і, вядома ж, са сватамі. Дзе тут засяродзішся...

## IV

І сапраўды... Стасункі Расіі і Беларусі ў апошнія гады вельмі нагадваюць стасункі маладога вясковага хлопца са сваёй суседкай, якую ён неяк знячэўку зацягнуў у кусты і цяпер абяцае з ёю ажаніцца. Ды па розных прычынах шлюб усё адкладваецца, хоць сваты ўжо некалькі разоў дамаўляліся пра яго і не адну бутэльку за гэта выпілі.

Хлопец штодзень лазіць да дзяўчыны, начуе ў яе і харчуецца, пастаянна шпацыруе наўпрост праз яе агарод у вёску, возам ездзіць праз яе двор, бо так карацей. Словам, усе выгоды з такога кахання мае, але заключыць рэальны саюз не спяшаецца, а то і ўвогуле рабіць гэтага не збіраецца. Бо разумее, якія з таго вынікаюць абавязкі, адказнасць і выдаткі...

Паводзіны Расіі (як кажуць, не хадзі глядзець!), нягледзячы на падпісанне чарговага "лёсаноснага" дакумента, моцна нагадваюць паводзіны таго кавалера. Зразумела, якая тут роля і ў нашай "адналюбкі" Беларусі... Але ж пачуцці праходзяць, а "дзеці" з тых стасункаў могуць быць сапраўдныя...

Расійская палітычная эліта сапраўды пакуль што не гатова да заключэння рэальнага саюза, калі давядзецца ўсю адказнасць і ўсе выдаткі браць на сябе. Адсюль і ўсемагчымыя дэмагагічныя выверты. Правячыя кланы больш выкарыстоўваюць гэтую нагоду ў прапагандысцкіх, асабліва прадвыбарчых мэтах. Прычым маючы на розуме не толькі выбары ў Дзяржаўную Думу, якія ўжо адбыліся, але і выбары прэзідэнцкія. Хто толькі з мяркуемых расійскіх "спасителей отечества" не разыгрываў і не разыгрывае "беларускую карту"? Што тут казаць — карта моцная, бо дае хуткі вынік! Іншая справа прапаноўваць свайму народу палітычныя і эканамічныя праграмы, якія б дапамаглі насамрэч выйсці з крызісу. Але гэта, як казаў нехта з вядомых савецкіх гумарыстаў, "будзе надта доўга", а тут адразу рэйтынгавыя ачкі. Але вось ці бяспройгрышная будзе тая карта?

Сёння ўсё больш становіцца відавочным, што рэальныя дамовы аб Саюзе Беларусі і Расіі будуць абмяркоўвацца і заключацца (не будуць абмяркоўвацца, заключацца?) ужо з новым Прэзідэнтам Расіі. А ім напярэдадні Новага, 2000-га года ўжо "аб'явілі" там цяперашняга прэм'ера Уладзіміра Пуціна, як яго ўжо пяшчотна называюць сёння ў Расіі — "Владимир-Красно солнышко".

Наўрад ці слушныя сцвярджэнні, што ў выпадку рэальнага саюза з Расіяй магчыма захаваць статус-кво "сытых" ваўкоў і "цэлых" авечак, інакш кажучы, статус-кво краіны, трошкі цяжарнай Саюзам, і не ваяваць, напрыклад, у Чачні. Фізічныя законы захавання энергіі і ўзаемаўздзеяння фізічных целаў з рознай масай яшчэ ніхто не адмяняў і той узровень славянізацыі-русіфікацыі-чачэнізацыі, якая чакае беларусаў у саюзе з нашмат большай "масай", не пакідае ім аніякіх шанцаў захаваць сваю "скуру" цэлай.

Па сутнасці мы сапраўды ўсё болей становімся падобнымі да таго нягеглага Саўкі, які нават талеркі пачынаў біць у сваёй хаце, калі бачыў, што гэта робіць ягоны сусед. Дарэмна наша краіна колькі гадоў спрабавала дэклараваць нейкі свой асаблівы шлях да светлае будучыні, называючы яго то "сацыялістычным рынкам", то "рынкавым сацыялізмам". Па сутнасці гэта ўсё той жа шлях расійскага Сцяпана-Івана, толькі больш затарможаны і экзатычны, на якім мы ў канцы стагоддзя і тысячагоддзя, падобна на тое, трывала загразлі...

Вось і працягваем мы сёння свой, бадай што самы унікальны на постсавецкай прасторы, пошук "прывіду мінулага", тае рэчкі, у якую ўжо адзін раз беспаспяхова ступалі. З-за гэтага — процьма праблемаў, напружаная і канфліктная сітуацыя ўнутры грамадства, а значыць, і ягоны раскол, такая ж няпростая знешняя сітуацыя...

Вядома, нашая дзяржава вельмі маладая, і яе крокі яшчэ ў пэўным сэнсе нявыверaныя, накшталт крокаў дзіцяці на пачатку ягонага жыцця. Хто ведае, магчыма, менавіта з-за гэтага памкненне прытуліцца да больш "дарослых", моцных, схавацца за іх шырокую спіною. Але вось ці будзе за спіною вялізнае азіяцкай Сцылы, дзе разгараюцца сёння ледзь што не шэкспіраўскія страсці і мефістофелеўскія інтрыгі, дзе льецца **сапраўдная** кроў на **сапраўднай** вайне, дзе спляжаныя ўжо практычна ўсе маральныя каштоўнасці, спакайней?

*(Працяг на стар. 15)*



З Іванам МЕЛЕЖАМ і Піменам ПАНЧАНКАМ. 1976 г.



З Аркадзем МАРЦІНОВІЧАМ, Янкам БРЫЛЁМ і Сяргеем ГРАХОЎСКІМ. 1986 г.

той дзень"?! Твор напісаны ў 1947 годзе, а гаворка ў ім пра тое, як даведаліся на фронце салдаты і афіцэры, што не стала народнага песняра беларускага народа:

***Пра смерць Купалы ў тыя дні***
***Пачулі мы пад Старой Русай.***
***Знялі пілоткі ў цішыні***
***І масквічы, і беларусы.***

Вайна, як вядома, працягвалася і "дарогі так ляглі ў жыцці, Што пад разрывамі снарада Усе не здолелі прыйсці З-пад Севастопаля і Ленінграда". Ды тых, хто выжыў, не пакідала мара не толькі аб хутчэйшай перамозе:

***Яшчэ гушчар стагнаў ад мін,***
***Свінцом зямлянкі абдавала,***
***А ўжо нам сніўся новы Мінск***
***І з бронзы выліты Купала.***

Падобная выснова робіць верш "У той дзень" вельмі беларускім. Як і іншыя творы Міколы Якаўлевіча, аб чым, дарэчы, у прадмове "Замілаванасць" да вышэйзгаданага аднатомніка "Анкета" хораша сказаў Рыгор Барадулін: "Вершы Міколы Аўрамчыка беларускія сваёй канкрэтнасцю і акрэсленасцю, сваёй прыхаванай глыбінёй і стрыманасцю, сваёй радасцю і замілаванасцю. Сын свайго часу паказаў час, як ён бачыў яго, як адчуваў яго, не хлусячы, не становячыся на катурны".

Надзіва беларускі і верш "Беларуская сасна", які даўно стаў хрэстаматыйным. Яго смела можна ставіць у "Анталогію аднаго верша", калі б у каго-небудзь з'явілася жаданне стварыць такую:

***З кожнай штольні пахне беларускай,***
***Баравой,***
***смалістаю сасной...***
***Пад зямлёй праход нязручны, вузкі***
***Выглядае просекай лясной.***

***Столь над нізкім вугальным забоем***
***Падпірае стойка не адна.***
***Некаторая з іх над табою***
***Зарыпіць, як голлямі сасна.***

Зверху — "тысячагадовыя пласты на паўкіламетра таўшчынёй", ды сасна ўсё ж "выконвае" сваю работу:

***Не такі цяжар яна ўтрымае,***
***Выступіць, як пот, з яе смала,***
***А сасна,***
***упартая,***
***прамая,***
***Хоча зноў прабіцца да святла.***

"Упэўненасць" сасны надае ўпэўненасці і таму, хто здабывае вугаль, спадзеючыся, што і гэта працоўная змена скончыцца спакойна:

***Ты з настойлівасцю вугаль колеш,***
***Іскры пырскаюць з-пад малатка...***
***Родная сасна пад цяжкай столлю***
***Не аддасць у крыўду земляка.***

Вельмі высока ацаніў гэты твор Пімен Панчанка: "У многіх паэтаў ёсць адзін верш, у якім нібыта сканцэнтравана ўся сутнасць і асаблівасць іх паэзіі. У М. Святлова гэта "Гранада", у Я. Смелякова — "Калі я захварэю...", у С. Арлова — "Яго зарылі ў шар зямны" і г. д. У М. Аўрамчыка такім вершам я назваў бы "Беларускую сасну"... Тут усё хораша: і думка, і сюжэт, і вобразнасць. Адразу адчуваеш і гордасць за сваю працу лірычнага героя, і любоў да роднай Беларусі з баравымі соснамі. Але галоўнае — верыш шчыраму даверліваму голасу паэта. У гэтым увесь Аўрамчык з яго яснай паэзіяй, з любоўю да радзімы, да людзей працы, з вернасцю франтавому сяброўству, з няўтольнай прагай пабольш паездзіць па свеце...".

Ад перажытага ішоў М. Аўрамчык і ў паэме "Волхаўская споведзь". І, канечне ж, у рамане "У падзямеллі", праўдзіва расказаўшы пра паднявольную працу ахвяр фашызму ў шахтах Рура. Яўген Лецка слушна называе гэты твор "балючым дакументам чалавечага жыцця". Магчыма, яму не стае кампазіцыйнай стройнасці, не заўсёды вытрыманы законы жанру, але ў дадзеным выпадку гэта не істотна. Бо галоўнае тут — Праўда, пададзеная тым, хто выпакутаваў права на яе ўласным жыццём. І да гэтага твора М. Аўрамчык ішоў доўга. Але не мог у рэшце рэшт да яго не прыйсці. Ён спавядаецца перад памяццю франтавікоў і яшчэ ў большай ступені — перад памяццю тых, каго доўгія гады лічылі вінаватымі за тое, што трапілі ў палон, хоць за пераважнай большасцю з іх ніякай віны няма. Увогуле, калі гаварыць пра прозу М. Аўрамчыка, а не толькі пра гэты раман, дык яна моцная сваёй дакументальнай асновай, і ў гэтым яе таксама вялікае значэнне. Як і яго ных успамінаў пра сяброў-таварышаў, з якімі М. Аўрамчык сябраваў у гады юнацтва і якія не вярнуліся з франтоў Вялікай Айчыннай. Гэтыя ўспаміны таксама набліжаюцца да прозы, хоць па іх эмацыянальнай напоўненасці адразу відаць, што напісаны яны паэтам.

І яшчэ пра адно нельга не сказаць: з 1953-га па 1980 год М. Аўрамчык з'яўляўся рэдактарам аддзела паэзіі часопіса "Маладосць". Узначаліў яго са з'яўленнем гэтага выдання (дагэтуль працаваў у рэдакцыях газет "Чырвоная змена", "Літаратура і мастацтва", часопіса "Полымя"). За гэты час даў пуцёўку ў літаратуру, а калі канкрэтней — у паэзію — не аднаму дзесятку сёння добра вядомых творцаў. Кожнага, у кім бачыў задаткі таленту, своечасова падтрымаў, рабіў усё, каб першыя творы былі надрукаваны. Некаторыя з ягоных вучняў з цягам часу сталі масцітымі, галоўнымі рэдактарамі выданняў, лаўрэатамі Дзяржаўных прэмій. Сам жа Мікола Якаўлевіч толькі ў 1964 годзе за кнігу "Сустрэча былых канагонаў" быў удастоены Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы. Мог бы і раней, і іншыя атрымаць, калі б не "такая" біяграфія, пра што ў адпаведных установах не забываліся.

Як не ўспомніць у сувязі з гэтым такія радкі аднаго з яго вершаў:

***Толькі ў мяне***
***з табой***
***ды з песняй***
***Штосьці ўсё не так, як у людзей.***

Аднак сапраўдная паэзія (і не для кога гэта не сакрэт) — гэта неабавязкова прэміі, званні. Паэзія перш-наперш — стан душы. Паэзія — талент. А гэтымі якасцямі і валодае, кажучы словамі з яго верша, прысвечанага Васілю Быкаву, "уваскросшы з мёртвых, жывы, без вестак прапаўшы рана гвардыі радавы" М. Аўрамчык — адзін з самых выдатных сучасных беларускіх паэтаў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Фота Ул. КРУКА*

Мікола АЎРАМЧЫК

# Прысвячэнні

## *Скульптар*

*Івану МІСКО*

***Дзе Валобрынка ледзь льецца,***
***Шчары поўнячы віры,***
***Басаногае маленства***
***Выняньчылі Чамяры.***

***Вёска гэта, як ні дзіўна,***
***Неймавернаю цаной***
***Вырасціла для радзімы***
***Вартых пахвалы сыноў.***

***Генералаў і вучоных,***
***Што праходзяць праз гады***
***І са славай заручоны***
***На радзіме назаўжды.***

***Журналістаў і паэтаў,***
***Што шануюць радавод***
***І ўслаўляюць вёску гэту***
***На працягу многіх год.***

***А пакольні ўзвесці ў культ іх***
***Людзям завяшчаў сам Бог,***
***Дык не нарадзіцца скульптар***
***На радзіме іх не мог.***

***Бо адлюстраваць навекі***
***Постаць статную і твар***
***Ва ўсю веліч чалавека***
***Толькі скульптар мае дар.***

***Працай рук ён узвялічыў***
***Дзеля будучых вякоў***
***Не адны толькі аблічны***
***Знакамітых землякоў,***
***Але ўвекавечыў нават***
***На планеце ўсёй адзін,***
***Як анёлаў, касманаўтаў***
***Многіх нацый і краін.***

•

*Пятру ПРЫХОДЗЬКУ*

***Паэта маці ў пачатковай школе***
***Была калісь***
***Настаўніцай тваёй,***
***Таму табе***
***Лягчэй было адолець***
***Сакрэт паэзіі***
***І тайны ў ёй.***

***Аднойчы нават***
***Падглядзеў ты ўпотай,***
***Як верш складае***
***Юны Куляшоў...***
***У сне,***
***Абдадзены халодным потам,***
***Ты ўславіць марыў***
***Родны свой Альшоў.***

***Калісь***
***Таксама ўзбударажыць лёс мой***
***Мог Панчанка,***
***Настаўнік малады,***
***Прысланы ў сямігодку ў нашы Плёсы***
***Яшчэ ў мае хлапецкія гады.***

***Ды ён пакінуў***
***Наш куток бязлесны,***
***Бо ў лесе вырас***
***З малалетніх дзён...***
***Я доўгі час***
***Перажываў балесна***
***Ад'езд яго ў глухі лясны раён.***

***І ўсё ж мой верш,***
***У Мінск дасланы з дому,***
***Калі ўжо я ў дзесяты клас пайшоў,***
***Тады надрукаваў***
***Паэт вядомы***
***І менавіта ім***
***Быў Куляшоў.***

## *Род акадэмікаў*

*Радзіму Гаўрылавічу ГАРЭЦКАМУ*

***Мо таму, што ў Малой Багацькаўцы***
***Як бы добра ні працаваў народ,***
***А ўсё роўна мала багацця меў, —***
***Нарадзіўся акадэмікаў род.***

***Як на баравіне праўдзівікі,***
***Пасярэдзіне верасоў густых,***
***Вылюднелі ў вёсцы на дзіва ўсім***
***Два крамяныя родныя браты.***

***Больш з іх, згодна дару божага,***
***Апярэджваючы ходу падзей,***
***Словамі пісьменства прыгожага***
***Зачароўваў і захапляў людзей.***

***Лад не званне даў ганаровае***
***Акадэміка за гэта яму, —***
***Пакаранне вынес суровае,***
***Расстраляў, спяршa кінуўшы ў турму.***

***З сілай волі і з цвёрдай мэтаю***
***Акадэмікам стаць і меншы змог...***
***Волата і асілка гэтага***
***Не зламалі ні ссылкі, ні астрог.***

***Ён умеў адшукваць радовішчы,***
***Ён нямала каналаў збудаваў,***
***Гідравузлоў і водасховішчаў,***
***Акадэміка-сына ўзгадаваў.***

***Каб не толькі свае дый бацькавы***
***Сын задумы ажыццяўляў мудрэй,***
***А таксама і ў справах дзядзькавых***
***Мог пляменнік з годнасцю весці рэй.***



ПРОЗА

# ...І МОРА ШУМ У ЦЕМРАДЗІ ПАКОЯ

АПАВЯДАННЕ

Алесь БАДАК



У тое лета споўнілася два гады, як мы з Марынаю пажаніліся. Аказалася, два гады — самы раз, каб паспець насыціцца адно адным і дазволіць сабе невялікі перадых. І калі Марына сказала, што хоча паехаць да цёткі ў Ялту, я хоць спачатку і ўзбунтаваўся — адна ў няблізкі свет! — але хутка астыў: і дзякуй Богу, што ёсць яшчэ куды ездзіць — ці да бацькоў на Валожыншчыну, ці во ў Ялту. Мне, мінчуку ў трэцім калене, ехаць асабліва не было да каго — каб так вось, пазваніць, напрасіцца пагасцёўнічаць тыдні тры, і ведаць, што табе там узрадуюцца.

Іншым разам я б і сам не адмовіўся крыху адпачыць у Ялце, але ў тое лета мусіў дабрахоць сядзець у Мінску. Прычына мелася досыць важкая. Хоць мая праца ў літаратурным часопісе была не вельмі грашавітая, затое не звязвала па руках і нагах на цэлы дзень, і я ўпрагаўся ў любую работу, каб ухапіць лішнюю капейчыну. І вось аднойчы, пасля таго, як на тэлебачанні я зрабіў сюжэт пра старую, абдзеленую ўвагай крытыкі і ўладаў паэтку, мне зусім неспадзявана прапанавалі ролю аднаго з вядучых новай штодзённай перадачы. Дзяўчына, якая пазваніла позна ўвечары, назвалася Ірынай, сказала, што бачыла мой сюжэт і ёй спадабалася мая манера трымацца перад камерай, што ў мяне добра пастаўлены голас (пры гэтым дадала: "Ваш мяккі барытон павінен вельмі падабацца жанчынам"). У маім становішчы ды пасля такіх кампліментаў грэх было б упірацца. Яна прадыктавала нумар свайго тэлефона ( лёгкі, адзначыў я сам сабе, можна запомніць з першага разу), папрасіла пазваніць не пазней, як праз тыдзень, за які я мусіў скласці спіс людзей (яна сказала: "вядомых дзеячаў культуры", робячы націск на першым слове), каго б я хацеў запрасіць на першыя выпускі.

Адправіўшы жонку ў Ялту, я ўсе выхадныя то бяздумна пстрыкаў кнопкай тэлевізара, то немаведама чаго снаваў па кватэры, якая раптам папрасторнела, змянілася, быццам у ёй пераставілі мэблю. У галаве была дзіўная мешаніна з лёгкага суму і хмелю ад ужо забытага халасцяцкага жыцця, далёкі водбліск якога цяпер вяртаўся да мяне новымі, яшчэ нязведанымі пачуццямі і настроямі.

Нарэшце я ўзяўся абзваньваць сваіх знаёмых "вядомых дзеячаў", каго яшчэ ў гэтыя спякотныя дні мог вылавіць у Мінску. Хутка ў маім спісе ўжо былі чатыры прозвішчы, і я сеў за тэлефон.

— Алё, — не адразу пачуўся голас у трубцы — ціхі, стомлены, таму цяжка пазнавальны.

— Ірыну можна? — Я паспрабаваў іграць сваім барытонам, але пацягнуў залішне нізка, аж запяршыла ў горле.

— Я Ірына. — На тым канцы голас ажывіўся, і ў ім пачулася здзіўленне.

— Я зрабіў, што абяцаў. Так што чатыры вядомыя дзеячы нашай культуры ў любы час гатовы прыпасці да вашых ног, — як пароль, прамовіў я напаўжартам.

На тым канцы мой доспіп доўга не выклікаў ніякай рэакцыі, нарэшце пачулася крыху іранічнае:

— У чым іх правіннасць, і што я павінна з імі зрабіць: пакараць смерцю альбо памілаваць?

Цяпер ужо я шукаў слова. Нам абаім было зразумела — я памыліўся нумарам, але выпадковая субяседніца чамусьці не клала трубку.

Тым часам паўза расла, і трэба было альбо прасіць прабачэння і развітвацца, альбо...

— Іх віна ў тым, што яны да гэтага часу не ўславілі ваша імя ні ў вершах, ні ў прозе, ні ў кіно, таму, безумоўна, заслугоўваюць пакарання. Аднак перш, чым вырашаць, што з імі рабіць, не забывайце: славутасцей у нас і так няшмат.

"Цікава, колькі ёй гадоў? Голас выдае на дваццаць пяць-трыццаць", — падумаў я неспадзеўна і як бы між іншым.

— Дзякуй за напамін. У такім разе перадайце сваім чатыром дзеячам —я магу пачакаць.

— Паверце, яны будуць вельмі старацца. Як вам пазваніць, каб спраўдзіць свае словы?

Апошняя фраза, хоць і сказаная жартам, была зусім не патрэбная, лішняя, быццам трапіла сюды з іншай размовы і іншага часу.

Між намі глухой сцяною вырасла доўгая паўза.

— Напэўна, так, як і цяпер.

Яе голас, здавалася, страціў усялякія эмоцыі.

— Шчыра кажучы, малаверагодна, што можна двойчы выйграць у тэлефоннае лато. — Што я мог яшчэ сказаць?

— А які нумар вы набіралі?

Я назваў.

— Ну, усё не так безнадзейна. Вы памыліліся толькі на адну лічбу.

Я паклаў трубку. Але гэта выпадковая, скупая размова доўга не выходзіла з галавы. Раз за разам пракручваючы яе ў думках, я прыпадобіўся да следчага, які па нешматлікіх, але яўных доказах спрабуе ўзнавіць карціну злачынства. Праўда, мая задача была больш прыемная: па фразах, прамоўленых таемнай незнаёмкай, па тым, як яна іх будавала, якім тонам прамаўляла, мне хацелася вызначыць яе характар, род заняткаў, узровень інтэлекту.

Я разумеў, што мая цікавасць да выпадковай субяседніцы ўзнікла для таго, каб бязлітасна расправіцца з яе загадкавасцю і, задаволіўшыся гэтай маленькай, вядомай мне аднаму перамогай, урэшце зусім забыць пра жанчыну. Яна цікавіла мяне як тыпаж, падобнага да якога, мне здавалася, яшчэ не было ў куфэрку маёй памяці і які я, магчыма, выкарыстаў бы ў якім-небудзь сваім апавяданні. Аднак усё, што мог, я ўжо вывудзіў з нашай размовы, і гэтага было недастаткова.

Заступнікі пурытанскіх нораваў, калі такія яшчэ засталіся, напэўна, мае павodзіны і на гэтым этапе нашага тэлефоннага знаёмства назавуць непрыгожымі, а то і амаральнымі ў адносінах да жонкі, але і сёння, праз тры гады, я так не лічу, што, зрэшты, можа толькі робіць мяне яшчэ больш вінаватым.

Абяссілены незвычайнай спёкай, якая амаль месяц трымала горад у сваім палоне, я не мог ні пісаць, ні чытаць, і нават думкі, быццам шарыкі ртуці, выплываючы з патаемных глыбіняў свядомасці, наганялі адна адну, таўкліся і нарэшце зліваліся ў адно бясформеннае і бессэнсоўнае цэлае.

Я ўспамінаў жонку, спрабаваў уявіць, чым яна ў гэты момант займаецца ў Ялце і, змагаючыся з пакутлівым прыступам рэўнасці, разважаў пра жаночую вернасць. Я верыў у яе настолькі, наколькі верыў у вартасць дзвярных замкоў — раз у замку ёсць адтуліна, значыць, можна падабраць ключ, якім ён адчыняецца. І не важна, які гэта будзе называцца — здрадай альбо "я пакахала іншага". Увогуле, думаў я, жаночая прырода вельмі недасканалая і кволая. Праўда, калі ўлічыць, што ў прыродзе не бывае нічога выпадковага, то і гэтай недасканаласці, кволасці, напэўна, таксама ёсць сваё апраўданне. Вось толькі якое? Адказ не знаходзіўся, і я ад агульнага кінуўся да канкрэтнага: пачаў па чарзе ўзгадваць знаёмых мне жанчын і шукаць апраўданні іх уяўнай здрады. Адна, як мне здавалася, не кахала свайго мужа; другая была занадта тэмпераментная — вось яно, бадай што самае слабое месца ў жанчыне, якая імкнецца захаваць вернасць мужу! Аднак ці можа гэта служыць апраўданнем? Калі так, значыць, пры жаданні, можна апраўдаць і любое злачынства?

"Любое злачынства? Пры чым тут злачынства?"

Я адчуў, што мой мозг, хутка змогшыся ад застаялай духаты, якая быццам выціснула з пакоя ўсё паветра, ужо адмаўляецца рэагаваць на мае каманды.

"Да д'ябла жанчын, — раздражнёна падумаў я. — Іх вернасць усяго толькі даніна часу і народным традыцыям. А ў падсвядомасці кожнай з іх жыве цяга да супрацьлеглага полу, і тут ужо нічога не паправіш — інстынкт прадаўжэння роду чалавечага. Вось і апраўданне жаночай нявернасці. Апраўданне? О Божа!.. І ўсё ж у гэтым сэнсе ўсе жанчыны аднолькавыя... І яна?.. Хто "яна"?.. Ну, вядома, такая ж, як усе... А калі не?.. Магу спрачацца на што заўгодна..."

Што я хацеў у гэты момант? Не, я не збіраўся пераступаць тую мяжу, за якой маглі пачацца непрыемнасці ў маім сямейным жыцці, і не жадаў непрыемнасцей гэтай жанчыне, магчыма, ужо замужняй, — яна іх, безумоўна, не заслугоўвала. Мае паспешлівыя планы не выходзілі за рамкі тэлефонных размоў, для мяне было дастаткова адчуць, як знікаюць, гінуць яе гонар і незалежнасць у хітраспляценнях слоў незнаёмага ёй мужчыны.

Ведаючы шэсць лічбаў нумара яе тэлефона, я не сумняваўся, што здолею вызначыць і сёмую...

Яе голас я пазнаў нават па кароткім "алё".

— Аказваецца, тэлефоннае лато не зусім безнадзейная гульня, а пра такі прыз за выйгрыш можна толькі марыць.

— Які прыз? — спытала яна пасля кароткай паўзы — відаць, не адразу здагадалася, хто ёй пазваніў.

— Магчымасць зноў пачуць ваш голас.

— Які вы ніяк не можаце забыць, так? — трохі іранічна прамовіла яна.

— І даўно вы чытаеце чужыя думкі на адлегласці?

— На жаль, думкі мужчын, асабліва калі мужчыны застаюцца адны і пакутуюць ад гультайства, не часта вылучаюцца сваёй разнастайнасцю альбо арыгінальнасцю.

— Паверце, гэта ўсяго толькі знешняя абалонка, якая ніяк не вызначае сутнасці. Нават не абалонка — гэта тое ж самае, што ў сонечны дзень глядзець на раку і казаць, што вада ў ёй блакітная.

Колькі мы размаўлялі? Хвілін трыццаць? Сорак? Паклаўшы трубку, я зразумеў, што прыдумаў сабе няпростую задачу. Мая незнаёмка не адносілася да таго тыпу людзей, якія першаму сустрэчнаму гатовы выкласці свой радавод аж да пятага калена.

І ўсё ж яе адносіны да мяне пакрысе пачалі мяняцца. Гэта я адчуў па тоне размовы, які змяніўся, стаў зусім даверлівым, калі мы загаварылі пра музыку. Па праўдзе кажучы, я і не падазраваў, што пра сучасных модных выканаўцаў можна гаварыць не толькі сур'ёзна, але і ўзвышана, што многія рок-музыканты выйшлі з Баха, Бетховена, Вівальдзі ( "Вы слухалі калі-небудзь Кіта Эмерсона?" — спытала яна).

Прызнацца, у той вечар у мяне і з'явілася думка, якая потым увесь час падагравала маю цікаўнасць да гэтай жанчыны: а што, калі яна сама спявачка? Спачатку думка мне здалася наіўнай і недарэчнай. Але я шукаў аргументы супраць яе — і не знаходзіў. Прынамсі, станавілася зразумелым, чаму таемная незнаёмка неахвотна расказвала пра сябе — багі не любяць есці кашу з адной міскі са звычайнымі смяротнымі.

Пасля ў нас было яшчэ некалькі тэлефонных размоў. Аказалася, яна зусім ігнаруе сучасную літаратуру (а мне, наіўнаму, не цярпелася знайсці момант, каб пахваліцца сваім танюсенькім зборнічкам прозы, які толькі што з'явіўся ў кнігарнях!). Я паспрабаваў заступіцца за сваіх любімых літаратараў — Гары, Белоу, Апдайка, Карвера нарэшце, але яна перабіла мяне і сказала нават з лёгкім раздражненнем:

— Вось бачыце, вы мусіце называць адразу шмат імёнаў, бо разумееце, што паасобку кожнага з гэтых пісьменнікаў нельга паставіць побач з Шэкспірам ці Дастаеўскім. Дый што новага яны могуць сказаць пра нас з вамі?

— Хіба чалавецтва за гэты час зусім не змянілася?

— О, чым менш я думаю пра чалавецтва, тым больш я яго люблю!

— А як жа сябры?

— Ну, мы ж гаворым пра агульнае, а не канкрэтнае. Ды і нашы сябры не ўсім пад нораў, як і мы самі... Хоць, ведаеце, — нібы схамянуўшыся і рэзка змяніўшыся ў голасе, напаўжартам сказала яна, — маёй лепшай сяброўцы Але кнігі нядаўна нават дапамаглі выскачыць замуж. Яна стаіць у пераходзе за кніжным латком. Цэны ў яе — амаль як на іншых латках. Розніца такая, што не кожны заўважыць. А вось знайшоўся адзін аматар сучасных дэтэктываў — панадзіўся хадзіць толькі да яе. Спецыяльна падымаўся з метро, потым вяртаўся і ехаў далей. Так і пазнаёміліся.

— Раз ваша сяброўка выйшла за яго замуж, значыць, ён усё ж аказаўся нядрэнным чалавекам?

— Значыць, аказаўся, — паўтарыла яна, і было незразумела, пагаджаецца яна са мной ці не.

Аднойчы я дапазна затрымаўся на тэлебачанні — рыхтаваўся да першага эфіру. Вярнуўшыся дадому, разагрэў пляскатыя, як аладкі, магазінныя катлеты, без асаблівай ахвоты, пакоўзаўшы па талерцы, з'еў адну і лёг з цяжкай галавой, усё яшчэ забітай заўтрашняй перадачай, — трэба было як след выспацца. Гэта быў першы вечар з часу нашай тэлефоннай "эпапеі", калі мы не перакінуліся хоць словам.

Раніцай, выходзячы з тэлецэнтра, я пашкадаваў, што не паставіў відэамагнітафон на аўтазапіс, каб пасля паказаць Марыне свой дэбют у прамым эфіры. І ў гэты момант у маю душу нібы прыйшло прасвятленне: я адчуў сябе вінаватым перад жонкаю — і за свае вячэрнія тэлефонныя званкі, і за тое, што цяпер вось мне хацелася, каб не толькі Марына, але і *яна* паглядзела мой сённяшні прамы эфір. Гэтае дзіўнае адчуванне віны жыло ў душы да самага вечара, нават тады, калі мая рука зноў пацягнулася да тэлефоннай трубкі. Але мне хацелася, каб гэта была наша апошняя размова. Вядома, я яшчэ не дамогся, чаго хацеў, аднак здарылася тое, што ўрэшце павінна было здарыцца, — я пачаў думаць пра незнаёмую мне жанчыну занадта часта, і мае фантазіі часам апыналіся вельмі далёка ад рэальнасці. Пакуль гульня канчаткова не ператварылася ў нешта больш сур'ёзнае і небяспечнае, трэба было спыніцца. Але як?

Мы зноў гаварылі доўга, здаецца, вельмі доўга, і, Бог мой, яна амаль не ўтойвала, што сумавала без майго званка! Я цешыўся нечаканымі пераменамі ў яе голасе, але мне ўжо гэтага было мала. Паляўнічы інстынкт кіраваў маімі пачуццямі, заглушаючы адны і разгараючы, як вугалькі амаль згаслага вогнішча, іншыя. Хоць мы ўжо крыху прывыклі адно да аднаго, да нашых вячэрніх тэлефонных размоў, усё роўна між намі заставалася нябачная прорва, і мне захацелася прапанаваць ёй пераскочыць гэтую прорву і адчуць, як яна будзе перасільваць сябе, каб адмовіцца. Аднак жа яна павінна адмовіцца, сказаўшы ўголас пра тое, пра што мы і так ведалі, але не хацелі гаварыць: усё, што магло між намі здарыцца, ужо здарылася.

— Ведаеце, — сказаў я, выбраўшы момант, — тэлефон, вядома, геніяльнае вынаходніцтва, ды шкоды ад яго мо не менш, чым карысці. Гэта ж з-за яго мы ўсё радзей сустракаемся са сваімі блізкімі і сябрамі. Ён не злучае нас са светам, а, наадварот, адгароджвае ад яго. Размова па тэлефоне гэта... як спевы пад фанаграму. Ёсць у гэтым нейкі фальш, не адкрыты, не прамы, і тым не менш... Давайце ўсё пакінем так, як ёсць. Хай застанецца хатняя ўтульнасць, цішыня. Хай усё так і застанецца — толькі без тэлефона. Разумееце?

— Разумею, — сказала яна, счакаўшы хвіліну. — Калі вы лічыце, што так будзе лепш... прыязджайце да мяне.

Я сумеўся. Ні з таго, ні з сяго такое не прапаноўваюць. Значыць, яна думала *пра гэта* раней?!

*(Працяг на стар. 12)*

## Фартэпіяна... па-беларуску

Канцэрт быў незвычайны. Па-першае, таму, што выконвалася музыка толькі беларускіх кампазітараў. Па-другое, таму, што амаль усе творцы, музыка якіх выконвалася, прысутнічалі ў зале.Як кажуць, тварам у твар з публікай і з адзіным выканаўцам праграмы — Барысам Бергерам.

Уступныя словы У. Шаліхіна: "Зараз вы ўбачыце яшчэ адзін подзвіг Барыса Бергера!" — не трэба ўспрымаць як нейкую іронію. Згадзіцеся, не шмат у нас выканаўцаў, якія мэтанакіравана займаюцца творчасцю беларускіх кампазітараў. А Б. Бергер праграмы такога кшталту рыхтуе не ўпершыню, таму і мае ў рэпертуары вельмі вялікае кола самых разнастайных твораў: ад мініяцюры да канцэртаў, ад пачынальнікаў сучаснай беларускай музыкі да самых маладых кампазітараў.

Упершыню былі выкананы творы У. Дарохіна, са стылізацыяй пад сярэднявечча, замалёўкай пастаральнага краявіду, і па-лістаўску "Блукаючымі агнямі". Санорныя сугуччы, бліскучыя іскрынкі пікантных секунд надавалі святочны настрой "Тром вясковым замалёўкам" В. Кузняцова. Вялікае захапленне слухачоў выклікалі творы У. Будніка, В. Карэтнікава з "Альбома для юнацтва", а таксама "Тры п'есы для дзяцей" У. Прохарава. "Маленькі каўбой" суседнічаў з "Робатам, які хацеў танцаваць", а лёгкі, грацыёзны "Вальс" — з лірыка-рамантычным "Палётам у сне, або Ліфтам да зорак"...

Кранула самыя тонкія струны душы музыка У. Солтана: "Прэлюдыя і пастараль", "Элегія" (памяці А. Друкта). І гэтыя творы У. Солтана, і Сюіта для фартэпіяна В. Швец (паводле балад А. Міцкевіча) сталіся філасофскімі кульмінацыямі музычнага вечара.

У зале прысутнічаў адзін са старэйшых нашых кампазітараў А. Багатыроў, які не прапусціў, здаецца, ніводнага канцэрта, дзе выконваліся яго творы!

Як заўсёды, Б. Бергер прадэманстраваў тонкае пранікненне ў асаблівасці стылю аўтараў.

**Н. ГАНУЛ,**
**студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

## "І прафесія, і жыццё"

Фотаработы Уладзіміра Суцягіна ведаюць у мастацкіх колах. Яго творчы стыль адрозніваецца тонкасцю, пачуццём меры і густу, імкненнем да гармоніі ў душы і ў свеце. Гэта чарговы раз пацвярджае выстава "Святло ціхае", што адкрылася ў галерэі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта. Яна ўключае работы 90-ых гадоў, прысвечаныя храмам і манастырам рускай глыбінкі.

Выстава ўяўляе сабой практычную частку семінара "Беларускае сучаснае мастацтва", які вядзе выкладчыца гэтай недзяржаўнай установы, мастацтвазнаўца Таццяна Бембель.

На адкрыцці выставы гаварылася, што перад намі "погляд мастака, які адчувае душу архітэктуры". Гэта сапраўды свет ясны і ціхі, у якім зліліся святло ўнутранае і вонкавае. Надзея, вера і любоў у ім злучаны непадзельна.

Пра сваё захапленне фатаграфіяй У. Суцягін сказаў так: "Гэта і прафесія, і жыццё". Мастак рыхтуецца да чарговай выставы, якая разгорнецца ў лютым у галерэі "На ростанях".

**Г. З.**

## "Роднае слова", N 11

Нумар адкрываецца артыкулам В. Смыкоўскай "Выхаванне нацыянальнай самасвядомасці на ўроках беларускай літаратуры". Штрыхі да творчага партрэта М. Лынькова ("Пясняр рамантычнага парыву") падае М. Тычына. В. Жураўлёў ("Адвечная сіла зямлі") па-новаму прачытвае "Палескую хроніку" І. Мележа. Да вобраза Хадоські ў гэтай трылогіі звяртаецца А. Кавалюк ("Святло душы мележаўскай канапляначкі"). Ідэя волі ў творчасці Я. Купалы прыцягнула ўвагу В. Івашына ("Палымяны вяшчальнік свабоды"). Польскамоўную паэзію ў берасцейскіх і нясвіжскіх выданнях 50—60-х гадоў XVI. ст. разглядае С. Кавалёў ("На хвалі Рэфармацыі"). Змешчаны артыкулы А. Макарэвіча "Асаблівасці мастацкай формы апавядальных гісторый, абразкоў і навел пачатку XX ст.", І. Будзько "Рэлігійна-абрадавая лексіка паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды". Да 40-годдзя Літаратурнага музея Якуба Коласа яго дырэктар З. Камароўская выступае з артыкулам "Песняй вітаю я вас..." З працэсам стварэння фільма знаёміць В. Нячай ("Здымаецца кіно..."). Вядучы рубрыкі "Літаратурны ветразь" М. Скобла прадстаўляе паэта А. Аляксандрава, які вучыцца ў Наваполацкім політэхнічным універсітэце. Можна пазнаёміцца з творчасцю кампазітара Алега Казловіча. Ёсць у нумары рэцэнзіі на новыя кнігі, каляндар знамянальных датаў і падзей на снежань сёлетняга года.

МУЗЫКА

# Барока... знак будучыні?

***У музычным жыцці сезона гэтая падзея ўспрымаецца як своеадметны знак часу. Часу чарговага пераасэнсавання мінулага і сябе — у мінуласці. Часу грунтоўнага спазнання і адраджэння глыбінных мастацкіх традыцый. Візіт у Мінск самабытнага італьянскага "Romabarocca Ensemble" на чале з высокаэрудзіраваным living рознабаковым музыкантам Ларэнца Тоццы разагрэў уласцівую і нашым прафесійнікам цікавасць да праблемы выканаўчых стыляў — прынамсі, "аўтэнтычнага" гучання музыкі барока ў сучасных варунках, а таксама выклікаў роздум пра феномен яе адраджэння напярэдадні новай эры.***



### ТУТ І ЦЯПЕР

На мінскай сцэне яны выступалі ўпяцёх: скрыпачкі Беатрыс Гаргана ды Ганна Пэнна, віяланчэліст Матэа Скарпелі, спявачка Этэль Оніс і маэстра Ларэнца Тоццы за клавесінам.

Прыгожая і эмацыйна ўраўнаважаная, крыху халаднаватая музыка. Санаты, падобныя да сюіт, танцавальныя п'есы, матэты. Творы знаных А. Карэлі, А. Вівальдзі і незнаёмых кампазітараў 17 ст. Д. Каломбі, Т. Мерула, Д.-Б. Буанаментэ, А. Гросі. Нязвыклая манера грання; дзіўнае гучанне інструментаў, якія музыканты штораз, выканаўшы чарговы нумар праграмы, падстройвалі. "Ювелірны" камерны спеў салісткі: свежае роўнае сапрана плюс адмысловая школа...

У нашых выканаўцаў музыка эпохі барока гэтак не гучыць. Хаця ў цікавасці да старасвецкага рэпертуару і пошукаў адпаведнай інтэрпрэтацыі ім не адмовіш. Тым болей, што з актуальнай папулярызацыяй малавядомай даўніны спалучаюцца і адраджэнне беларускай музычнай спадчыны, і захапленне некаторых айчынных кампазітараў новай генерацыі постмадэрнісцкай трактоўкай стылю барока, і памкненне аднавіць у канцэртнай практыцы аўтэнтычны інструментарый. (Згадайма баранавіцкі ансамбль "Контрданс" з яго унікальным для нашага музычнага асяроддзя камплектам германскіх аўтэнтычных копій барокавых духавых інструментаў; згадайма пінскага майстра-энтузіяста Юрыя Дубнавіцкага, які зрабіў, паводле англійскага асобніка, пакуль адзіную сёння беларускую лютню).

Вядома, тэхнічная дасканаласць, эмацыянальнае раскрыццё характару музыкі, артыстычная абаяльнасць не кампенсуюць таго, што называецца адчуваннем стылю. Але хто абудзіць і выхавае гэтае невытлумачальнае адчуванне? Яно рэдка бывае інтуітыўнае. Як жа дамагчыся карэктнай інтэрпрэтацыі твораў, напісаных некалькі стагоддзяў таму, калі нават інструментарый тады адрозніваўся ад сучаснага?

Падчас канцэрта "Romabarocca Ensemble" здавалася, што для маэстра Тоццы гэта не рытарычнае пытанне. І ён знаходзіць адказ у сваёй шматбаковай навукова-практычнай, асветніцкай, педагагічнай, арганізатарскай дзейнасці.

Ён займаўся фартэпіяна, харавым дырыжыраваннем і кампазіцыяй. Скончыў школу музычнай палеаграфіі ў Крэмоне і курсы аркестравага дырыжыравання, прайшоўшы, прынамсі, практычны курс барока. Атрымаў і дыплом па сучаснай філалогіі, званне дацэнта кафедры музычнай гісторыі ды эстэтыкі. Выкладаў у кансерваторыі Санта Чэчыліі ў родным Рыме, у Спецыяльнай школе музыказнаўства універсітэта Мачэраты ў Фермо, у эксперыментальнай школе кампазіцыі. Быў музычным крытыкам у газеце "Il Tempo", супрацоўнічаў з многімі часопісамі. З 1984 па 1994 г. быў мастацкім кіраўніком Акадэміі Барока ў Рыме, пазней стаў яе ганаровым прэзідэнтам. А яшчэ меў чын адміністрацыйнага саветніка Нацыянальнай акадэміі Санта Чэчыліі. Пры гэтым ніколі не перапыняў навуковую дзейнасць, адметным увасабленнем якой можна лічыць і заснаванне ў 1994 г. "Romabarocca Ensemble".

Разам з іншымі спецыялістамі ў антычнай культуры, сваімі спадзвіжнікамі, Л. Тоццы праз дзейнасць ансамбля адкрывае для шырокай публікі раманскую музыку барока, надае новае жыццё нявыдадзеным і мала распаўсюджаным творам 16—17 стст., у ліку якіх камерныя інструментальныя і вакальныя; араторыі, кантаты, оперы, камедыйныя інтэрмедыі. Разнажанравы рэпертуар вызначае і досыць рухомы склад удзельнікаў калектыву, які, між іншым, ажыццяўляе сваю дзейнасць за кошт саміх жа музыкантаў. (Як зазначыў маэстра, усе яны маюць педагагічную працу, заробак ад якой дазваляе займацца даследчыцкай, канцэртнай, фестывальнай, асветніцкай практыкай. Уяўляеце? Аналагічная сітуацыя ў асяроддзі нашых музычных педагогаў проста немагчымая).

Ансамбль з поспехам выступае на міжнародных фестывалях, а ў 1999 г. быў ганараваны залатым медалём фестывалю мастацтваў і дружбы ў Паўночнай Карэі (намінацыя інструментальнай музыкі).

Сказаць, што напярэдадні новага стагоддзя мы спрычыніліся да жыватворнай і перспектыўнай часцінкі магутнага духу Акадэміі Барока, — не будзе перабольшваннем...

### ТАМ І ТАДЫ

Для студэнтаў і педагогаў Беларускай акадэміі музыкі не парупіліся зрабіць годную рэкламу, і таму, на жаль, многія пра майстарклас, які наладзіў госць, проста не ведалі (і не наведалі!). Удзельнікам прэс-канферэнцыі, што адбылася наступным днём, пашанцавала больш. Дзве гадзіны, што прабылі яны ў пасольстве Італіі, нагадвалі не традыцыйную сустрэчу журналістаў з цікавым іншаземцам, а пазнаваўчую лекцыю-гутарку кампетэнтнага спецыяліста. Распавядаў ён даходліва, захоплена і вобразна:

# "Магічны крышталь" творцы

***"Музыка Беларусі, Расіі і Польшчы на мяжы XX—XXI стагоддзяў". Так называлася праграма аднаго з філарманічных выступленняў лаўрэата нацыянальнага і міжнароднага конкурсаў, піяніста, педагога Беларускай акадэміі музыкі Алега Крымера. Той канцэрт стаўся яркім вынікам трох складнікаў: кампазітар — выканаўца — слухач.***



Адна з найяркіх і найсамабытных прадстаўніц клану кампазітараў сучаснасці Соф'я Губайдуліна мяркуе так: "Па сутнасці, часу не існуе. Мінулае не існуе, таму што яно ўжо мінула. Будучыні не існуе, таму што яе яшчэ няма. Цяперашняе ж абсалютна няўлоўнае, яно ўвесь час саслізвае ў небыццё мінулага. Усе ж мы жывём у рэальным касмічным часе — цяперашнім, які доўжыцца вечна. Але гэты час нявыкуплены. Ён выкупляецца толькі ў мастацтве — там адбываецца тварэнне сутнаснага часу. Гэты сутнасны час нараджаецца на мяжы жыцця і смерці як акт злучэння агню і ружы". Сваё светаўспрыманне С. Губайдуліна ўвасабляе ў музыцы, вобразна-эстэтыка-этычны напрамак якой уладарыць у сучасным мастацтве. І выканаўцы прыкладаюць велізарныя намаганні, каб дэшыфраваць кампазітарскую задуму: парадніцца з творцам музычнай ідэі, спасцігнуць вобразную сферу твораў, агучыўшы якія, падзяліцца сваім перадуманым, перажытым, тым, што палюбілася...

Якой душэўнай энергіяй, якой інтэлектуальнай шчодрасцю і страснасцю павінен валодаць выканаўца-"праваднік", каб падчас канцэрта запаліць "вольтавую дугу" паміж сцэнай і залай! Алегу Крымеру гэта ўдаецца, ён надзелены дарам прыцягваць увагу слухача да кожнага гуку. Да таго ж ён не толькі бліскучы артыст, які валодае фенаменальнай тэхнікай, а і сталы мастак, які ўсёй душой імкнецца спрыяць росту аўтарытэту нацыянальнай музычнай культуры.

Крымера пастаянна запрашаюць многія гарады і краіны. Ён удзельнік міжнародных фестываляў у Маскве, Варшаве, Кракаве, Таліне, Вільнюсе, Мінску і ва ўсіх буйных гарадах Беларусі. Там упершыню выканаў творы сучасных беларускіх кампазітараў: Л. Абеліёвіча (некаторыя прысвечаны А. Крымеру), У. Дарохіна, В. Кузняцова, В. Капыцько, А. Соніна, І. Паліводы, Г. Гарэлавай, Н. Усцінавай, Ю. Андрэевай, А. Літвіноўскага, С. Бельцюкова, У. Браілоўскага і інш. Піяніст са шчырым жаданнем і вялікім пачуццём адказнасці знаёміць слухачоў і з сучаснай фартэпіяннай музыкай іншых краін. Як і кожны сапраўдны музыкант-асветнік, найперш клапоціцца пра тое, каб як мага большую колькасць слухачоў далучыць да высокага мастацтва, а не вылучыцца сярод іншых, прадэманстраваць сваё неардынарнае майстэрства выканаўцы, інтэрпрэтатара.

Для А. Крымера галоўнае — мастацкая самакаштоўнасць праграм, якія заўсёды старанным чынам рыхтуюцца. У іх прадстаўлены высокамастацкія акадэмічныя ўзоры айчыннай і замежный класікі і сучасныя творы самых розных аўтараў, кірункаў, стыляў. Сучасная музыка даўно перастала быць "кнігай для абраных", у ёй няма былой замкнёнасці, знарочыстай мудрагелістасці і бясстраснасці, але ёсць элементы дэмакратычнасці, адкрытасці, своеасаблівай простасці. І тым не менш яе ўспрыманне стварае пэўную складанасць не толькі для аматараў, але і для прафесіяналаў. Алег Крымер інтэрпрэтуе такую музыку, імкнучыся раскрыць яе ўнутраны сэнс, каб публікай было ўсё пачута, успрынята, зразумета, перажыта і адкрыта штосьці сугучнае сваім уяўленням, інтарэсам.

●

Не менш адметная і камерна-ансамблевая дзейнасць піяніста. Многія знаныя музыканты не толькі не цураліся буйных форм музіцыравання (прынамсі, ансамблевага выканальніцтва), але надавалі яму велізарнае значэнне, таму што ансамбль крэатыўны. Кожны з удзельнікаў, скажам там, узбагачаецца на адзінку прафесійнага і жыццёвага досведу свайго партнёра. Нягледзячы на тое, што праца ў ансамблі складаная і турботная, тут кожны залежыць ад другога: "я-ты-яны-мы". Пастаянна трэба клапаціцца пра бездакорную тэхнічную адпрацаванасць, што называецца, ювелірнасць, сінхроннасць, суладдзе, а таксама і артыстычнасць, натхнёнасць усіх удзельнікаў творчага калектыву. У ансамблі кожны артыст выконвае некалькі роляў. У адным і тым жа творы ён выяўляецца і як саліст, і як суправаджальнік, раўнапраўны партнёр і рэгулятар. Працуючы з поўнай самааддачай, кожны ансамбліст патрабуе таго ж і ад партнёра.

Выканаўчы маналог (дзе артыст адказвае толькі сам за сябе і выконвае адну ролю, вядома, галоўную) у нечым і больш складаны, і прасцейшы. Ансамбль жа — своеасаблівы "палігон" для выхавання гнуткасці, чуйнасці, увагі.

нездарма па-італьянску "maestro" значыць "настаўнік"!

Без малога тры дзесяткі гадоў займаецца Л. Тоццы даследаваннямі ў галіне музычнай даўніны. Гэтая праца нагадвае рух... назад, ва ўсё больш далёкія часы. Штосьці кшталту археалагічных раскопак: напачатку захапіўшыся познім 18-м стагоддзем, дайшоў да досыць даўніх пластоў музычнай культуры, дзе многае адкрываецца наноў, дапамагаючы паўней уявіць працэс развіцця музычных традыцый Еўропы.

Бясспрэчна, ужо ў пачатку 17 ст. Італія зрабілася "музычнай Меккай", куды імкнуліся іншаземныя кампазітары: школа, традыцыі, дух оперы, інструментальнай творчасці нараджаліся-фармаваліся там. Спакваля распаўсюдзіліся яны і да двара імператрыцы Кацярыны II. А беларускія даследаванні апошняга часу сведчаць і пра шанаванне "італьянскай моды" ў музычных асяродках на нашых землях.

"Для музыкантаў кантакт з мінулым вельмі важны", — мудра заўважыў маэстра Тоццы. І хаця ён лічыць сябе "вучнем вучня вучня Ліста" (гэтакім праўнукам вялікага кампазітара-рамантыка і віртуоза фартэпіяна), і хаця ён як мала хто іншы дасведчаны ў гісторыі ды палеаграфіі, ён не можа катэгарычна вызначыць, як выконваліся творы, скажам, Карэлі ці Вівальдзі ў іх час. Пэўна, тое гранне выклікала б шок у сучаснага слухача.

Старыя гравюры, малюнкі падказваюць, што раней нават скрыпку трымалі не так, як робяць гэта сённяшнія акадэмічныя выканаўцы: становішча пляча, локця, кісці са смыкам, пальцаў — усё ўплывала на манеру грання, на спосаб гукаатрымання, на якасць гучання. Данесці паціну старадаўняга нотнага рукапісу да сучаснага слухача, грунтуючыся на вывучэнні самых розных крыніц, імкнуцца ўдзельнікі "Romabarocca Ensemble". Яны маюць досыць рэдкія інструменты: скрыпкі 17 і 18 стст., копію "рарытэтнага" клавесіна. Скрыпкі ўкамплектаваныя струнамі з бычыных жылаў — гэта і надае спецыфічны тэмбр, і вымушае часта падстройваць іх падчас канцэрта. Ёсць нюансы ў аплікатуры, у становішчы смыка. Ёсць свае патрабаванні да вакаліста: незалежна ад прыроднай магутнасці голасу, спяванне мусіць быць камернае і філіграннае...

"Вялікія выканаўцы ніколі не шкодзяць твору, а ўдасканальваюць..." — таксама з высноў Л. Тоццы. Ён даведаўся ў свой час пра рэч парадаксальную з пункту гледжання выканаўцаў-артадоксаў, выхаваных на музыцы 19 ст. і прывучаных да "непахіснасці" нотнага тэксту, у якім нельга змяніць ні знаку, ні штрыха.

Што ж гэта за "парадаксальная рэч"?

Здольнасць музыкантаў барока да імправізацыі. Як інструменталістаў, так і спевакоў. Кшталту таго, чаго вымагае сёння мастацтва джаза. Дарэчы, і ў некаторых напрамках музычнага мадэрнізму значная роля адводзіцца інтуіцыі выканаўцы, яго імправізатарскаму таленту. Дык, можа, творчы стыль эпохі Барока, дзе кампазітар і выканаўца не проста цесна супрацоўнічалі, а былі на ўзаемазамяняльных ролях, — гэта заўтрашні стыль акадэмічнага музычнага мастацтва?

## І Ў ПРАЦЯГ...

У сённяшняй Італіі 13 буйных музычных тэатраў. Акадэмія Санта Чэчылія і тэатр "Ла Скала" маюць адны з лепшых у свеце сімфанічных аркестраў, а кожны рэгіён краіны мае свой буйны аркестр. Ёсць 66 кансерваторый, выхаванцы якіх атрымліваюць сярэднюю музычную адукацыю. Вялікае значэнне надаецца музычнай адукацыі на мясцовым узроўні... Можна "ўдарыць статыстыкай", але і без яе вядома, што Італія — краіна музычная, і галоўны культ італьянцаў — опера. (Нездарма оперы Д. Вердзі адыгралі калісьці сур'ёзную ролю ў патрыятычным яднанні італьянскага народа!). І менавіта獨 опернае мастацтва сёння шчодра фінансуецца дзяржавай.

А як жа чароўнае італьянскае барока?

Як ні парадаксальна, Рым, горад барока, не мае свайго "фірмовага" фестывалю. Разам з тым, на думку Л. Тоццы, у свеце — сапраўдны выбух цікавасці да музыкі барока. Ёй прысвячаюцца фестывалі ў ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, Галандыі... Магчыма, "дойдзе чарга" і да Італіі. Пакуль жа наш госць спрычыніўся да арганізацыі ў сябе на радзіме Міжнароднага фестывалю музыкі і танца. І мінулым летам сярод удзельнікаў гэтага маляўнічага свята былі беларускія музыканты — калектыў пад кіраўніцтвам дырыжора Валерыя Сарокі, што працуе ў структуры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, а таксама салістка Нацыянальнага тэатра оперы Таццяна Цівунова.

Маэстра Тоццы захаваў самыя прыемныя ўражанні ад выступленняў гасцей з Беларусі і мае намер у новым годзе рэалізаваць супольны мастацкі праект. Натхнёны поспехам першага выступлення "Romabarocca Ensemble" ў Мінску, марыць прыехаць з іншым складам выканаўцаў і прадставіць публіцы ўзоры музычна-сцэнічных жанраў італьянскага барока. Заадно і пачытаць лекцыі для зацікаўленых беларускіх калег, студэнтаў. І, вядома, — пазнаёміцца бліжэй з музычнай культурай нашай краіны.

Калі планы не зменяцца, наступны візіт Ларэнца Тоццы ў Мінск адбудзецца ўвесну.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

МАНАЛОГІ

# Пра сімвалы, непазбежнасць ды ўласны шлях

***Песні ў Андрэя Мельнікава розныя. Задзірыстыя, вясёлыя, тужлівыя... Але ўсе яны пра адно — пра нас з вамі, беларусаў. Няўрымслівых і занядбаных, непрымірымых і свядомых, жорсткіх і бязвольных... Пад песні Мельнікава немагчыма танчыць, мыць падлогу і завіхацца перад люстэркам. Пад іх трэба думаць. "Ліцвінская" філасофія барда трымаецца, гучыць і доўжыцца не толькі на неўтаймаваным полі гітарнага грыфа, узаранага шасцю струнамі. Яна вельмі хутка прарастае сваёй беларускасцю ў сяброўскіх душах і сэрцах. Мельнікаў, яе руплівы сялянскі гаспадар, збірае ўраджай, замест зерня ў якім — словы, ноты ды наша агульная святая беларуская душа.***

**Андрэй МЕЛЬНІКАЎ — бард:**

— Наймагутнейшым сімвалам у Мінску, на мой погляд, з'яўляецца плошча Перамогі. Тут ёсць і спалучэнне стыхій, і архітэктурная завершанасць. Магутны каменны абеліск з металічнымі элементамі пранізвае паветра, ля яго ўзножжа ўладарыць агонь. Цэнтр кампазіцыі замкнёны колам, паабапал — дрэвы, а непадалёк — на паўднёвым усходзе, дзе заходзіць сонца — адна з дарог, што разбягаюцца ад плошчы, дасягае апошняй, воднай стыхіі, увасобленай Свіслаччу.

Мяркую, невыпадкова менавіта тут, каля плошчы Перамогі, месцяцца некалькі істотных для беларускага жыцця ўстаноў. Сімвал прыцягвае да сябе дзеянне, якое сімвалізуе, дзеянне прыцягвае адпаведныя сімвалы. Замкнёнае кола — кола непазбежнасці.

Ведаеце, як узніклі карычневыя? Калі арганізацыя ўжо існавала, а адметнай уніформы яшчэ не было, адзін з правадыроў натрапіў на вялікую партыю карычневых кашуль, якія з нейкіх прычын заляжаліся на складах, а таму выйшлі з моды і абясцэніліся. Магчымасць апрануць аднаверцаў у танныя кашулі была выкарыстана, а далей — яны сталі сімвалам.

На пачатку 90-х, падчас маёй працы загадчыкам фоталабараторыі ў адной дзіцячай установе, мой калега — зацяты турыст-"горнік" ды пачынаючы бізнесовец-кравец — вырабіў партыю бушлатаў камуфляжнага тыпу. Камуфляж ужо быў папулярны, але тут — не пайшоў. З-за сваіх "горных" шэра-сініх адценняў. Я некалькі месяцаў запар спрабаваў дапамагчы калегу ў рэалізацыі яго пастуіпова таннеючага тавару, а праз пэўны час на горны камуфляж перайшла ўся айчынная міліцыя. Оптавы тавар знайшоў адзіна магчымага на Беларусі менавіта свайго оптавага пакупніка? Выпадковасць выбару? Ці непазбежнасць працэсу і генная памяць нашчадкаў арыяў пра сваю горную прарадзіму?

Ці выпадкова мой жыццёвы шлях рэзка змяніў кірунак амаль адразу пасля смерці вялікага земляка — Уладзіміра Караткевіча? Маленькі некралог з газеты на беларускай мове, якую маці дасылала да месца маёй службы ў гарах Цэнтральнай Азіі, да мяне так і не дайшоў, а першы твор Караткевіча (твор), які я прачытаў, патрапіў у рукі ў дваццацічатырохгадовым узросце, калі я ўжо даўно дайшоў да Беларусі.

А да Беларусі дайшоў, таму што проста наспеў час. І дайшоў бы, пэўна, незалежна ад таго, жыў бы ў Оршы ці Светлагорску, Гомелі ці Мінску, незалежна ад таго, у якім з гэтых гарадоў закахаўся б у "свядомую" беларуску. Насупраць той "абшчагі", дзе жыў у Светлагорску, сёння — беларускі ліцэй, побач з "абшчагай", дзе жыў у Мінску, — Кальварыйскія могілкі. На тых могілках, уцякаючы ад тлумных суседзяў, я рыхтаваўся да паступлення ў Мінскі медыцынскі, чытаў надпісы лацінкай на старых плітах, не ўсведамляючы, што гэта імёны выбітных людзей майго народа. Прайшоў нейкі час — і іх аура спрацавала. Спрацавала ў Оршы. І ў 89-м на полі Аршанскай бітвы ўпершыню за доўгі час былі адзначаны яе ўгодкі.



У 1994-м лёс звёў мяне з Творчай кампаніяй вольных мастакоў "Магілка" і яе выданнем "Аксамітны жах". І тое, і другое — "прадукты" Гомеля. Сапраўды жахлівая для кагосьці мяшанка высокай паэзіі, мастацтва, гісторыі, археалогіі, фальклору, прыколаў і графаманства. Але, адначасова, ці не абуджэнне і крышталізацыя мясцовых радзіміцкіх традыцый з іх паганскімі культамі, цмокамі, млынамі? У 99-м "Магілка" распрацавала і прапанавала для карыстання "аксамітны правапіс" — графіку са спалучэннем рыс кірыліцы і лацінкі, двойчы правяла (разам з уласнай мастацкай выставай) "Аксамітныя чытанні", на якія сабрала сотні маладых творцаў, іх прыхільнікаў, прыхільніц, гасцей (збольшага з Мінска). Публіка пераважна рускамоўная, але надзіва нярускі па псіхалогіі. "Хоть похоже на Россию, только все же — не Россия". Увагі з боку СМІ да "Магілкі" — амаль аніякай. Усё роўна — ТКВМ жыве, яе ідэі перамагаюць, а прыхільнікі множацца.

Наспеў час — зараз я сярод ліцвінаў. Многім нязвыкла, што нацыя, якая нібы перастала існаваць пасля разгрому паўстання Кастуся Каліноўскага і пра якую як бы не прынята ўзгадваць пасля злучэння жамойтаў, аўкштайтаў, сувалкійцаў і дзукаў у адзіны летувіскі народ, абвяшчае пра сябе.

Апошняе. Сёння амаль усе блізкія і дарагія мне людзі — гэта тыя, з кім звяло поле Аршанскай бітвы ды нацыянальныя шляхі. З вялікага і досыць моцнага сваяцкага клана хтосьці напрамую адрокся ("каб не дыскрэдытаваў"), хтосьці не забыў сваркі продкаў, з кімсьці проста разышліся агульныя інтарэсы. Чужасць большасці сваякоў, без сумневу, не дала дасягнуць больш значнага. Але да трыццаці трох год паўстала сяброўскае кола, якое мацуюць агульныя святыні, супольныя святы, салідарнасць ды файныя ўзаемаадносіны.

І гэтым сяброўскім колам, хай не ўсё часам атрымліваецца, можна рабіць немалыя справы, маючы над сабой толькі Бога

*На здымку: А. МЕЛЬНІКАЎ з гітарай і сябрамі.*

У гэтым сэнсе адметны дуэт Алега Крымера з таленавітым музыкантам, цудоўным кларнетыстам Генадзем Забарам. Гук гэтага майстра кларнетавага выканальніцтва інакшай як чароўным, фантастычным не назавеш. Слухаючы Раяль Крымера і Кларнет Забары, напаўняешся абаяльнасцю іх мастацтва. Праграмы іх выступленняў надзвычай разнастайныя па змесце, форме, жанрах, стылях, але пераважаюць шэдэўры фартэпіяннага і кларнетавага мастацтва: творы Я. Брамса, К. Дэбюсі, Ф. Мендэльсона, Ф. Пуленка, С. Рахманінава, К. Сен-Санса, І. Стравінскага, С. Танеева, П. Хіндэміта, Ф. Шуберта і інш. Дарэчы, нядаўна яркі самабытны дуэт адзначыў сваё 10-годдзе. І нягледзячы на салідны творчы стаж, ансамбль у складзе Алега Крымера і Генадзя Забары па-ранейшаму здзіўляе ростам мастацкага майстэрства і творчай няўрымслівасцю.

●

І яшчэ адна грань "магічнага крышталю" дзейнасці А. Крымера — педагагічная. Тут яго поспехі таксама відавочныя. Ён рыхтуе годную змену высокапрафесійных спецыялістаў, выканаўцаў і педагогаў для роднай Беларусі. Сам А. Крымер сфармаваўся як шматбаковы, захоплены музыкант у класе таленавітага педагога-выхаваццеля, сапраўднага "властителя дум" таленавітай моладзі, адной з стваральнікаў беларускай фартэпіяннай школы, прафесара, незабыўнай Ірыны Цвятаевай. Вось што кажа пра яе ўдзячны вучань: "Я шчаслівы тым, што лёс падарыў мне такога педагога і "музычную маму". Цвятаевай я абавязаны ўсім, у тым ліку знаёмствам і дачыненнем з такімі выдатнымі піяністамі, як Э. Гілельс, В. Мяржанаў, Л. Аборын, Я. Мільштэйн, Я. Малінін, Я. Фліер. Ірына Аляксандраўна, у адрозненне ад іншых, "не прывязвала" да сябе вучняў. Па яе мудрай парадзе многія з іх закончылі аспірантуру пад кіраўніцтвам прафесараў Маскоўскай кансерваторыі, у тым ліку і я".

Успрыняўшы ўсё лепшае ад свайго Настаўніка, ён таксама імкнецца ўвесці сваіх выхаванцаў у храм духоўнасці, памагаючы спасцігаць сутнасць музычных думак і глыбокіх пачуццяў, разумець стыль і жанравыя асаблівасці таго ці іншага твора. У класе А. Крымера ў Беларускай акадэміі музыкі і каледжы пры ёй падрыхтавана нямала лаўрэатаў і дыпламантаў нацыянальных і міжнародных конкурсаў. Сярод іх удастоеныя першых і другіх прэмій у розных краінах: Францыі, Італіі, Польшчы, Славакіі, Летуве і, вядома, у сваёй роднай Беларусі. Некаторыя вучні Алега Крымера, такія, напрыклад, як Яўген Кулевіч і Вольга Сцяжко, — лаўрэаты трох міжнародных конкурсаў, а Любоў Старычэнка ды Яўген Маліноўскі заваёўвалі ўзнагароды на міжнародных музычных спаборніцтвах двойчы. Зусім нядаўна да названых імёнаў дадалося яшчэ тры: А. Бярозкіна вярнулася лаўрэатам з конкурсу ў Чэхіі, А. Бубен — з Італіі, М. Гардзіюк — з Грэцыі.

Канцэрты, што адбыліся ў вялікай і камернай залах сталічнай філармоніі пад рубрыкай "Настаўнікі і вучні", у якіх выхаванцы Алега Маісеевіча дэманстравалі высокае прафесійнае майстэрства, прайшлі з вялікім поспехам. Што асабліва важна і каштоўна: усе вучні вельмі розныя і па ступені таленту, і па характары, і тэмпераменце, па манеры трымацца на сцэне і эмацыянальным выяўленні, г. зн. кожны з іх — індывідуальнасць. І ў той жа час добра "праглядаецца" тое агульнае, што характарызуе творчую лабараторыю, якая называецца "клас Алега Крымера". Гэта ўлюбёнасць у музыку, дух творчага пошуку, прага ў працы, патрабавальнасць да сябе і, нарэшце, самае істотнае: удумлівы аналіз у падыходзе не толькі да з'яў музычнага мастацтва, а і да з'яў навакольнай рэчаіснасці, імкненне пашырыць выканаўчы дыяпазон, адкрыць штосьці новае ў сабе самім.

Вучні А. Крымера, якія закончылі Беларускую акадэмію музыкі, паспяхова працуюць у розных сферах мастацкай і педагагічнай творчасці. Некаторыя з яго былых выхаванцаў удасканальваюць сваё выканаўчае майстэрства за межамі нашай краіны. Усе яны ў той альбо іншай ступені імкнуцца, як і іх настаўнік, аддана служыць музе Еўтэрпе і паспяхова спалучаць два галоўныя "амплуа" музычнага мастацтва: выканальніцтва і педагогіку. Што можа быць больш дастойным і высакародным!

А сам Алег Крымер, таленавіты музыкант, ніколі не спыніцца ў сваім руху да творчага Алімпа.

**Міхась СОЛАПАЎ,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі**

# І палотны, і фотаздымкі

Адразу дзве новыя выставы распачалі работу ў Горацкай карціннай галерэі.

У вялікай зале экспануюцца творы беларускіх, рускіх і ўкраінскіх мастакоў, якія бралі ўдзел у чацвёртым міжнародным пленэры "Вобраз Айчыны ў выяўленчым мастацтве". Гледачы знаёмяцца з карцінамі У. Масленікава, Л. Дударэнкі, У. Гардзіенкі, М. Давыдава, А. Бобрышава... Жывапісныя палотны вызначаюцца чысцінёй колераў, гармоніяй кампазіцыі. У кожнай рабоце — непаўторная прыгажосць зямлі, любоў да роднага краю.

А ў малой зале працуе фотавыстава "Краіна ілюзій". Аўтар фотаздымкаў — магілёўскі фотамайстар, уладальнік шматлікіх прызоў і званняў Аляксандр Ліцін. Працуе Аляксандр фотакарэспандэнтам газеты "Трудовая слава" вытворчага аб'яднання "Хімвалакно", захапляецца мастацкім фота. "Краіна ілюзій" — майстэрскае спалучэнне, а нярэдка і супрацьпастаўленне рэпартажных і "салонных" работ, якія адлюстроўваюць вобраз жанчыны.

**Т. ДРАЗДОВА,**
**навуковы супрацоўнік Горацкай раённай карціннай галерэі**





## Ведаць сваё і чужое
ЯРАСЛАВУ КЛІМУЦЮ — 60



**Малая радзіма Ярослава Клімуця — вёска Острава Мастоўскага раёна, дзе ён нарадзіўся 10 студзеня 1940 года. Вучыўся спачатку ў мясцовай пачатковай школе, а ў 1958 годзе скончыў Гудзевіцкую сярэднюю школу. Працаваў у калгасе, у сельмагу, служыў у арміі. З 1962-га па 1967 год вучыўся на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1967—1968 гадах быў настаўнікам Дубайскай васьмігодкі Ваўкавыскага раёна, каля года — супрацоўнікам уздзенскай раённай газеты "Чырвоная зорка". У 1969—1975 гадах выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Ліцвянскай сярэдняй школе імя П. Глебкі Уздзенскага раёна. Адначасова вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР (1972—1976). У 1979 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме "Якуб Колас і руская савецкая паэзія. З 1975 года — старшы выкладчык кафедры беларускай літаратуры Магілёўскага педагагічнага інстытута, з 1982-га — дацэнт, з 1986-га — дэкан філалагічнага факультэта гэтай вышэйшай навучальнай установы, якая цяпер з'яўляецца універсітэтам.**

**Першая публікацыя Я. Клімуця — рэцэнзія на зборнік "Дзень паэзіі-67", змешчаная на старонках Ваўкавыскай раённай газеты. З 1972 года выступае ў рэспубліканскай перыёдыцы. У 1985 годзе ў Я. Клімуця выйшла манаграфія "Жыццёвасць традыцый".**

**З 60-годдзем, шаноўны Яраслаў Іванавіч! Творчых поспехаў вам і здароўя.**

## Сэрца прагне прыгажосці
АЛЕНЕ РУЦКАЙ — 50



**Нарадзілася Алена Віталь'еўна 11 студзеня 1950 года ў вёсцы Дзякаўцы Шчучынскага раёна, але ў 1961 гозе пераехала з бацькамі ў Слонім. Там скончыла сярэднюю школу.**

**Паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Атрымаўшы ў 1971 годзе дыплом аб вышэйшай адукацыі, да 1977 года працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Сценявіцкай васьмігодцы Слонімскага раёна, у Судзілаўскай сярэдняй школе Клімавіцкага раёна, у Сянькоўшчынскай сярэдняй школе Слонімскага раёна. З 1977 года была настаўніцай у СШ N 2 г. Слоніма. Цяпер жыве і працуе ў Гродне. З першымі вершамі А. Руцкая выступіла ў 1966 годзе на старонках газеты "Голас Радзімы". У 1988 годзе ў яе выйшла першая кніга паэзіі "Роздум".**

**Віншуем Алену Віталь'еўну з 50-годдзем! У новым годзе ды і ў наступных зычым ёй нязменных жыццёвых і творчых поспехаў!**

## Паэт, сын паэта
ВАДЗІМУ СПРЫНЧАНУ — 50



**Вадзім Спрынчан нарадзіўся 14 студзеня 1950 года ў Гомелі, дзе на той час жыў і працаваў яго бацька паэт Браніслаў Спрынчан. У 1963 годзе з бацькамі пераехаў у Мінск. У 1972 годзе скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў рэдактарам, а ў 1982—1989 гадах загадчыкам рэдакцыі паэзіі выдавецтва "Мастацкая літаратура".**

**Спачатку ў друку выступіў як перакладчык, надрукаваўшыся ў 1976 годзе ў часопісе "Нёман". У 1981 годзе выдаў кнігу паэзіі "Зямля і людзі".**

**З поўднем веку, Вадзім Браніслававіч! Далейшых Вам поспехаў у творчасці!**

ПАМЯЦЬ

# Перарваная песня

4 СТУДЗЕНЯ ПІСЬМЕННІКУ Міхасю БАРЭЙШУ СПОЎНІЛАСЯ Б 50...

Міша быў чалавек безумоўна прыгожы. Высокі, па-цыганску чарнявы, з глыбокім, пранікнёным позіркам. Яго любілі або ненавідзелі. Часцей, вядома, любілі. Ён умеў сыходзіцца з людзьмі, ён шукаў сустрэч, нібыта хацеў паспець назапасіць як мага болей уражанняў і знаёмстваў.

Ды мала хто ведаў, які ён на самай справе адзінокі, як даражыць сваімі блізкімі, як пяшчотна і ласкава ставіцца да іх. "Параможца", "шчаслівчык", ён быў сарамлівы і няўпэўнены ў сабе, ён ішоў у літаратуру сур'ёзна, па-трапяткому верачы ў яе, марачы служыць ёй да канца.

Я помню яго першыя вершы, першыя апавяданні, нашы гутаркі і спрэчкі, нашы сумесныя падарожжы і паездкі. Літаратура давалася яму няпроста, але ён рос з кожным новым радком. Ён умеў адстойваць сваю думку, але мог і прыслухацца да крытыкі, да іншага пункту погляду.

Рабочы, ваенны марак, начальнік змены, ён ведаў людзей, тыя бакі жыцця, якія журналістам і пісьменнікам бачацца збоку. Стаўшы карэспандэнтам, а затым і намеснікам рэдактара полацкай газеты, ён прынёс у жыццё рэдакцыі мудрасць і вопыт сталага чалавека, ён быў нібыта старэйшы за многіх сваіх калег, якія па гадах намнога пераўзыходзілі яго.

Мы разам везлі дакументы ў Саюз пісьменнікаў. Міша быў за рулём. Спыніліся, не даязджаючы сталіцы, на кароткі прывал. Барэйша ўжо тады адчуваў сваю хваробу. Але ж хто хоча верыць у смерць у няпоўныя сорак гадоў? Наперадзе былі новыя творы, новыя планы. Ён радаваўся поспеху сваёй доўгачаканай кнігі "Крыніца, чыстая вадзіца", гаварыў пра свае задумы.

А потым для яго пачаліся бальнічныя ложкі і палаты, і нашы сустрэчы былі азмрочаны гэтай акалічнасцю яго цяжкой хваробы.

Роўна за тыдзень да смерці ён прыехаў у Наваполацк, у сваю сям'ю, у кватэру, якую атрымаў пасля доўгіх гадоў чаргі, працуючы на "Паліміры", на адной з самых шкодных хімічных вытворчасцяў.

Мы з Ірынай Жарнасек і Вінцэсем Мудровым бачылі ранейшага Мішу, вясёлага, іранічнага, уважлівага, поўнага задум.

А праз сем дзён, 13 жніўня 1990 года, у спякотны сонечны дзень, мы хавалі Міхася. Дзіка і недарэчна выглядала гэта смерць, калі вакол шчодра і радасна буяла прырода. І ніхто не хацеў верыць, што Мішы не стала.



Амаль дзесяць гадоў, як яго няма з намі. За гэтыя дзесяць гадоў, я ведаю гэта, ён напісаў бы нямала цудоўных старонак. Тое, напісанае ім, што засталося, сведчыць пра гэта. І зорка яго душы, яго творчасці свеціць нам і сёння, пяшчотным і ціхім, роўным і ласкавым святлом.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# ...І МОРА ШУМ У ЦЕМРАДЗІ ПАКОЯ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

—Але спачатку дазвольце не пагадзіцца наконт тэлефона — ва ўсякім разе, калі мець на ўвазе наш выпадак. Прызнайцеся, за гэты час, што мы з вамі знаёмыя, вы паспелі ў думках намаляваць мой партрэт —такім, якім вы хацелі яго бачыць. Так?

— Так. — Я машынальна кіўнуў галавой.

—Атрымалася казка, якая, вядома ж, не мае нічога агульнага з рэальнасцю. Я не хачу сказаць, што рэальнасць горшая, ці хай сабе і лепшая — яна проста іншая. І яна разбурае гэтую казку.

— Але ж гэта не заўсёды кепска! — вырвалася ў мяне.

— У іншай сітуацыі — магчыма. А вось у нашай... Казка можа доўжыцца колькі заўгодна, а рэальнасць... Кожная наша сустрэча будзе толькі аддаляць нас адно ад аднаго.

— Аднак вы толькі што самі...

— Не палічыце мяне за вар'ятку, але... давайце не будзем разбураць казку. Вы сваю, я сваю. Мы можам сустрэцца вечарам, калі зусім сцямнее, у пакоі з цёмнымі шторамі. Не будзем запальваць святло. І тады ўсё застанецца па-ранейшаму.

Яе прапанова была настолькі нечаканай і дзіўнай, што я, нарэшце дамогшыся, чаго хацеў, не здолеў сказаць ёй "не". Больш таго (ці — горш таго?), гульня, якую я задумаў, як бы працягвалася, але працягвалася па іншых, не зразумелых мне правілах, і, галоўнае, я не ведаў, чым яна павінна скончыцца. Тады я яшчэ не разумеў, што гэта ўжо была *не мая* гульня.

Дом, у якім яна жыла, — звычайная "хрушчоўка" — доўга шукаць не давялося, ён стаяў метраў за сто ад тэлецэнтра, змрочны і шэры, запушчаны, асабліва на фоне суседніх шматпавярховікаў, нібы ўціснуты ў зямлю. Не ведаю, чаму, але мне заўсёды здавалася, што ў такіх дамах жывуць адны старыя.

Я зайшоў у пад'езд — нібы незнарок трапіў у разяўленую чорную пашчу невядомага страшыдла. Цьмянае святло на лесвічнай пляцоўцы гарэла толькі на пятым паверсе, а мне трэба было падняцца на другі. Кватэра, як яна і папярэджвала, аказалася незамкнёная, за дзвярыма таксама гусцела цемра, якая больш шэрая, амаль чорная, яна хлынула на мяне разам са спёртым паветрам. Я нерашуча пераступіў праз парог і нягучна спытаў:

— Ці ёсць хто жывы?

— Андрэй? — данеслася з глыбіні цемры.

— А што, можа быць яшчэ хто-небудзь?

— Праходзь, адно замкні дзверы.

"Відаць, не паспела дафарбаваць вусны", — усміхнуўся я сам сабе, крыху здзіўлены, што яна не выйшла мне насустрач — у гэтай цямнечы і чорт ногі зломіць. Аднак толькі я павярнуў у дзвярах ключ, як пачуў за спіной лёгкія крокі. Яе рука спачатку тыцнулася мне ў паясніцу, чамусьці здрыганулася, нарэшце намацала мой локаць, саслізнула ўніз і сціснула мае пальцы.

— Пайшлі, — не выпускаючы маёй рукі, гаспадыня кватэры павяла мяне ў пакой. Я спрабаваў разгледзець яе, але дарэмна. Мы селі на канапу.

— У цябе дзіўныя рукі, — сказаў я.

— Чаму? — не адразу спытала яна.

— Яны супакойваюць. — Мне здалося, што я сказаў не зусім дакладна, таму дадаў: — І я пачынаю адчуваць, як мая душа... нібы матэрыялізуецца ўва мне... Я адчуваю, як яна рухаецца. Уверх — уніз, уверх — уніз.

Яна нічога не адказала, проста гладзіла маю руку. Што менавіта руку, я хутчэй здагадваўся, бо адчуваў яе дотык усім целам.

— Што ты бачыш? — нарэшце спытала яна.

— Цемру. Якая, як аказалася, мае шмат адценняў.

— Не, — пакруціла яна галавой. — Заплюшчы вочы — у пакоі *занадта светла.*

Я паслухмяна заплюшчыў.

— Калі ты размаўляў са мной па тэлефоне, ты *бачыў* мяне, так?

Я кіўнуў.

— Значыць, і цяпер ты можаш бачыць мяне. Бачыць пакой. Крэсла. Стол. І не важна, ці яны ёсць тут на самай справе. Ты можаш бачыць белую сцяну. Карціну на сцяне. На карціне мора, шторм. Калі ўслухацца, можна нават пачуць, як яно шуміць. Ты чуеш, як яно шуміць?

Я зноў кіўнуў. Я сапраўды чуў яго шум... Вось яго хвалі ўжо вырываюцца з карціны і амаль дасягаюць нашых ног...

Яе пальцы павольна рухаліся па маім целе, то ледзь кранаючыся, то, наадварот, сціскаючы яго, а мне бачылася, як мы ступілі насустрач хвалям, і мора прыняло нас у свае абдымкі. Усе гукі пачалі зліваццa ў адзін — шум мора, і толькі аднойчы, нібы крык чайкі, з яе вуснаў сарваўся і тут жа растварыўся ў цемры, здавалася, адначасова здзіўлены і ўдзячны ўскрык...

Назаўтра я цэлы дзень хадзіў быццам па аблоках. Усё, што адбылося між намі, здавалася сном — прыгожым, дзіўным і з тых, якія ніколі не паўтараюцца.

Міналі дні, я не званіў ёй. Я нібы пакінуў яе ў той ночы назаўсёды.

Днямі павінна была вярнуцца жонка, і я не сумняваўся, што тонкая нітачка, якая пакуль што ўсё яшчэ звязвала мяне з жанчынаю, чый твар я так і не разгледзеў, непазбежна парвецца. Пачуцці ў маёй душы пачалі пакрысе прыходзіць у раўнавагу. Заставалася зрабіць апошні і самы цяжкі крок — разбурыць нашу казку, каб пазбавіць сябе (*і яе?*) ад магчымых душэўных пакут.

І я нарэшце рашыўся. Раніцай купіў на вакзале пяць пунсовых ружаў, спусціўся ў метро. Я баяўся, што не застану яе дома, але і не хацеў папярэджваць аб сваім прыездзе. Мой план быў просты: на парозе падарыць ёй ружы, сказаць "дзякуй", пацалаваць — у адзін кароткі, але шматзначны дотык да шчакі, і — усё, больш не затрымлівацца ні на хвіліну (зрэшты, цяпер я разумею — мяне падганяла туды звычайная цікаўнасць: якая яна знешне? Ці ёсць хоць крышку ад той, якую я выпеставаў у сваім уяўленні?).

Пацягнуўшыся да кнопкі званка, я заўважыў, як ад хвалявання задрыжэла рука. Раптам падумалася: а што, калі дзверы адчыніць нехта іншы? Смех дый годзе — заявіўся жанаты кавалер з кветкамі! На такі выпадак я не запасся ніводным варыянтам сваіх паводзінаў — хоць ты бяры ды ўцякай назад! У гэты момант шчоўкнуў замок, і я папраўдзе крыху адступіўся. Дзверы адчыніліся напалову, і праход засланіла маладая жанчына гадоў трыццаці ў блакітным махровым халаціку, перацiснутым тонкім паяском. Кароткая стрыжка, кончыкі цёмных валасоў крыху закручаныя і нагадвалі коскі (я пазнаў бы не нават па валасах!). Тонкія, ледзь выгнутыя бровы. Трошкі выцягнутыя, нібы для пацалунка, пульхненькія вусны. І толькі вочы — абыякавыя, халодныя, яны глядзелі крыху ўбок і вышэй мяне. Яны не заўважалі мяне! Яны былі сляпыя!

— Ала? — з трывогай у голасе спытала яна.

Ашаломлены нечаканым адкрыццём, я не мог вымавіць ні слова. На сэрца ўсё роўна як накаціўся цяжкі камень — здавалася, яно вось-вось спыніцца пад гэтым цяжарам.

— Хто тут?

"Я", — хацелася сказаць у адказ, але я баяўся азвацца і выдаць сябе, уявіўшы, як ёй будзе балюча даведацца, што мне зусім нечакана раскрылася яе *страшная таямніца*!

Стаіўшы дыханне, я, нібы злодзей, пачаў нячутна спускацца па лесвіцы, трымаючы пунсовыя ружы, пра якія зусім забыўся, бутонамі ўніз. Ішоў, са страхам чакаючы, што яна зараз акліча мяне па імені.

Раптам уверсе бразнулі дзверы — нягучна, але я здрыгануўся і, спыніўшыся, некалькі хвілін услухоўваўся ў цішыню, быццам хацеў пачуць у ёй нешта вельмі важнае для сябе...

# Ерась альбо неабходнасць?

## ПРА МОВУ БОГАСЛУЖЭННЯ

***Гутарка з настаяцелем Св. Петра-Паўлаўскага сабора, протаіерэем Георгіем Латушкам (пад іншым загалоўкам) была надрукавана ў газеце "Царкоўнае слова" пасля першага богаслужэння ў храме па-беларуску. Прайшоў год. Традыцыя расце, набірае моц, але сама праблема па сутнасці не абмеркавана ні царкоўнымі, ні свецкімі коламі. Вось чаму мы змяшчаем матэрыял на нашых старонках і спадзяёмся на працяг гаворкі.***

**— Айцец Георгій, якія існуюць кананічныя ўказанні наконт богаслужэбнай мовы ў Праваслаўнай Царкве?**

— Ніякіх абсалютна. Былі некаторыя вучэнні ў VIII—IX стагоддзях, выходзілі яны больш з заходняй часткі хрысціянскай царквы, і прад'яўляліся прэтэнзіі да святых братоў Кірыла і Мефодзія з-за таго, што яны перакладаюць, служаць і прапаведуюць на славянскай мове. Вучэнне было такім, што можна маліцца Богу, чытаць Свяшчэннае Пісанне толькі на адной з трох моў — грэчаскай, лацінскай і яўрэйскай, г. зн. на тых мовах, на якіх былі зроблены надпісы на Крыжы Гасподнім, — так званых кананічных мовах. Святыя браты паспяхова выкрылі няпраўду, і царква падтрымала іх, а вучэнне гэта назвала ерассю трохмоўя.

**— Значыць, сам выраз "кананічная мова" няправільны?**

— У царкве такога не існуе.

**— У гісторыі Беларускай Праваслаўнай Царквы ці ўзнікала калі-небудзь пытанне аб перакладзе богаслужэння на нацыянальную мову?**

— Узнікла тады, калі з'явілася ідэя нацыянальнага адраджэння, усталёўвалася нацыянальная самасвядомасць, — гэта канец мінулага стагоддзя, пачатак нашага. Больш за ўсё гэта праблема паўставала ў асяроддзі беларусаў-каталікоў, таму што Польшча вельмі жорстка трымала іх у "пальшчызне", гэта выклікала пратэст.

**— Ці не гэтаксама жорстка трымала расійскае праваслаўе ў русафільстве?**

— У тым і справа, што не. Гэта ўжо міф нашага часу. Былі некаторыя выказванні, нават забароны "беларускай адметнасці", але ўсё адбывалася ў рэчышчы супрацьстаяння польскаму нацыяналізму, таму што "беларушчына" атаясамлівалася з "пальшчызнай". У праваслаўных прыходах, а таксама уніяцкіх, богаслужэнне вялося толькі на царкоўнаславянскай, бо літаратурная форма беларускай мовы была на той час яшчэ не сфарміравана (на што паўплывалі гістарычныя фактары). І зусім не было праблем: вернуючыя людзі былі прызвычаены да царкоўнай мовы. Існавала праблема адраджэння свецкай беларускай мовы, вызвалення яе ад засілля мовы польскай. Таму і зараз для свайго развіцця беларускай мове жыццёва неабходна мець як мага больш цесныя сувязі з царкоўнаславянскай і ўзбагаціцца за кошт гэтых сувязей, што з рускай мовай адбывалася пастаянна.

**— Якая зараз неабходнасць перакладаць богаслужэнне на беларускую?**

— Па-першае, дзеля ўмацавання беларускай мовы. Сёння з'явілася патрэба ў аўтарытэтным ужыванні беларускай мовы, у яе ўзвышэнні. Не толькі ўдмурцкая, алеуцкая, японская мовы, на якія перакладалі свяшчэнныя тэксты нашы святыя місіянеры — св. роўнаап. Мікалай, прп. Герман Аляскінскі, Макарый Глухароў, — але і беларуская мова таксама здольна выказваць слова пра Бога, што для мяне, як для беларуса, неабходна. Хочацца, каб беларуская мова была ў царкве сваёй, сугучнай, а не штучна створанай пад уплывам польскага касцёла. Па-другое, пераклад літургіі на беларускую мову з'яўляецца цалкам натуральнай з'явай для пэўнай і не малой часткі тых, хто ўваходзіць у Праваслаўную Царкву.

**— Тут, відаць, справа не ў неразуменні царкоўнаславянскай мовы?**

— І ў неразуменні таксама. Бо моладзь, і рускамоўная, і беларускамоўная, не заўсёды ўспрымае царкоўнаславянскую мову, таму варта нейкія абрады і таінствы ўжываць у форме больш зразумелай, скажам, чытаць Евангелле па-руску пры пахаванні альбо хрышчэнні, калі сярод прысутных адзін, двое ходзяць у царкву, і то не вельмі часта. Я, напрыклад, з першых дзён служэння гэта практыкую — у Пецярбурзе, Ноўгарадзе, Мінску, Стоўбцах.

**— Але ў той сітуацыі, што, да вялікага сораму, склалася ў нашай дзяржаве (беларуская мова амаль не выкарыстоўваецца ў грамадстве), было б больш натуральна перакладаць богаслужэнне на рускую мову?**

— На рускую пераклад ужо зроблены, часта свяшчэннік замянее незразумелыя словы — *живот* на "жизнь", *любы* на "*любовь*" для большага разумення тэксту. А каб не было вельмі сорамна за сябе, каб не быць "иванами, не помнящими родства", мы, праваслаўныя беларусы, не адмаўляемся ад роднай мовы. Гэта прыкласці ўсе намаганні, каб яна ўзбагацілася прыгоствамі, дасканаласцю царкоўнаславянскай і стала побач з ёй, не замяняла ні ў якім выпадку, а суседнічала.

**— Але ж беларусаў, якія хочуць маліцца ў праваслаўным храме па-свойму, меншасць?**

— Так, згодзен. Але трэба заўважыць, што яны неяк мусова выціснуты з царквы агрэсіўна настроенымі людзьмі. Ваяўніча не прымаецца многімі беларуская гаворка ў храме; колькі разоў людзі расказвалі пра тое, што пытанне ці фраза па-беларуску выклікаюць абурэнне: "А вы можете нормально разговаривать?!"

**— А ці можна ўхіліцца ад гэтых непаразуменняў перакладам асноўных трэб, чытаннем пропаведзі на беларускай мове, але не закранаць цэнтр царкоўнага жыцця — літургію?**

— На жаль, вельмі далёка зайшло супрацьстаянне, і час рабіць больш рашучыя крокі. Калі б не было такой непрыязнасці рускамоўнай большасці, то і праблем не было б, і працэс перакладу не трэба было б паскараць. Але людзі, для якіх беларуская — родная мова, хочуць адчуць, што яны не чужыя ў царкве, што царква для іх не мачаха.

**— А ці можна быць упэўненым, што гэтыя людзі ідуць у царкву не дзеля самой мовы, а дзеля служэння Богу?**

— Свяшчэннік гэтага гарантаваць не можа, ён павінен маліцца і пастырстваваць, здзяйсняючы сваё служэнне праз таінствы, вучэнне і апекаванне над душой. Але разважаць можна. Думаецца мне, што 90% з іх ідуць шчыра. Дарэчы, добрая палова людзей, з якімі я маю стасункі, цудоўна моліцца па-царкоўнаславянску, зміраецца з непрыманнем беларускай мовы, актыўна і рэгулярна ўдзельнічае ў царкоўным літургічным жыцці. Але асаблівы ўздым, асаблівую радасць яны адчуваюць, калі і на беларускай мове гучыць малітва.

**— Не сакрэт, што ў перыяд нацыянальнага і рэлігійнага пад'ёму большасць беларускай інтэлігенцыі, спрадвеку праваслаўнай, перайшло ва уніяцтва і каталіцтва, задавальняючы хутчэй свае нацыянальныя запатрабаванні. Служэнне літургіі па-беларуску прадугледжвае нейкі жэст у адносінах да гэтых людзей?**

— Так, гэта таксама адзін з матываў перакладу богаслужэння на беларускую мову, каб не адштурхоўваць ад царквы людзей па нараджэнні праваслаўных, якія маюць прынцыповыя погляды і на свае нацыянальныя правы. Таму наша справа — місіянерства. Царква ўсё ж не судзілішча ці купка пасвечаных. Зразумела, не яе справа вырашаць моўныя, палітычныя, сацыяльныя праблемы. Царква ратуе людзей, але пры гэтым яна стараецца рабіць гэта даступна, выкладаючы проста дагматычныя матэрыялы, выкарыстоўваючы камп'ютэры для выдання кніг, тэлебачанне для паказу богаслужэння. Усё гэта нармальна, натуральна, але мэта — не рашэнне праблем тэлебачання і інш., а прывесці чалавека да Бога, аднак, зноў жа, не насілуючы яго свабоднай волі, — далікатна, асцярожна.

Тут я хачу яшчэ раз звярнуць увагу, што не замена царкоўнаславянскай мовы на беларускую адбываецца зараз, а ўжыванне іх побач. У суботу 2 студзеня служылася літургія па-беларуску, а потым звычайным чынам — па-царкоўнаславянску.

**— Напэўна, трэба прызнаць, што ў людзей, нацыянальнае пачуццё якіх доўгі час падаўлялася, у адказ выпрацавалася пачуццё абвостранай нацыянальнай годнасці, у некаторых выпадках — балючае. Ці не будзе служэнне літургіі на беларускай мове ўмацоўваць гэтае пачуццё і садзейнічаць яго ператварэнню ў гардыню?**

— Падобны настрой, безумоўна, мае месца. Але ці правільна і далей узмацняць яго? Пастырская задача царквы не ўзмацняць супрацьстаянне паміж людзьмі, а ўсіх запрашаць да выратавання. І я цалкам упэўнены, што ў чалавека, які моліцца, спавядаецца і прычашчаецца, гардыня будзе не павялічвацца, а змяншацца.

**— Ці няма якіх-небудзь палітычных уплываў на працэс перакладу праваслаўнага богаслужэння на нацыянальную мову?**

— Ніколі не было. Цяперашні ўрад зусім не папракнеш у навязванні беларускай мовы ні ў царкве, ні наогул...

**— Маючы на ўвазе багацце, прыгажосць праваслаўнага богаслужэння па-старасла-вянску, многія называюць пераклад на беларускую крокам не наперад, а назад. Вы з гэтым згодны?**

— На гэта пытанне лепш адказаць словамі балгарскага кніжніка XIV ст. Ісайі Серскага, перакладчыка сачыненняў св. Дыянісія Арэапагіта, які казаў, што "грэчаская мова першапачаткова, ад Бога, была прыгожаю і ёмістаю, а пазней яе яшчэ больш упрыгожылі мудрацы. І наша славянская мова была створана Богам дасканалай і вельмі прыгожай, як усё, што стварыў Бог, але з-за адсутнасці людзей, мудрых у слове і ўмелых у навуках, яна не стала настолькі зграбнай, як грэчаская..." Тое самае можна сказаць зараз пра суадносіны царкоўнаславянскай і беларускай моў. Славянская — узвышаная, дасканалая, зграбная, высокамудрая. Але хто будзе сцвярджаць, што праз сто, дзвесце, трыста гадоў гэтага нельга будзе сказаць пра нашу беларускую мову?

**— Дык жа царкоўнаславянская мова ніколі не была размоўнай, і лексіка — скажам так, вульгарная — там адсутнічае.**

— Зразумела, што тая старажытная славянская мова, на якую перакладалі грэчаскія тэксты святыя браты Кірыл і Мефодзій, не мела многіх філасофскіх і багаслоўскіх паняццяў, слоў, што абазначаюць прадметы іудзейскага, арамейскага быту і культуры, якія ў значнай колькасці прысутнічалі ў Свяшчэнным Пісанні. І ўся гэтая лексіка ў чыстым выглядзе пераходзіла са старажытнагрэчаскага, яўрэйскага. Усе вучоныя гавораць адназначна, што была мова звычайная, штодзённая, на якой складаліся дакументы, лісты, і мова богаслужэбная, багаслоўская. Таксама вядома, што багаслоўе да XVII ст. было на лацінскай і грэчаскай мовах, на славянскай нічога не было з-за адсутнасці тэрміналогіі, багаслоўскіх выразаў. І калі сталі ўжываць славянскую мову ў XVIII ст., то многія багасловы не падтрымлівалі гэтай практыкі.

Таму працэс перакладаў свяшчэнных тэкстаў на нацыянальныя мовы цалкам натуральны. А праблемы, якія зараз узнікаюць, можна растлумачыць асаблівым пачуццём, калі ў чалавека царкоўнага праяўляецца непрыманне новаўвядзенняў, але такая рэўнасць павінна быць толькі "па розуму". Мітрапаліт Філарэт падтрымлівае гэтыя пачынанні, Свяшчэнны Сінод Беларускай Праваслаўнай Царквы благаславіў пераклад трэб і літургіі. Але самае галоўнае, што трэба зразумець: скандал раздуваецца з-за няправільнага меркавання, што перакладаюць усё і ўсіх на беларускую мову і што ўжо не будзе больш служба на царкоўнаславянскай. Гэта наўмысная фальсіфікацыя, цалкам свядомая, яна распаўсюджваецца, каб унесці раскол у царкву і папоўніць рады аўтакефальных царкоўнікаў і іншых антыправаслаўных згуртаванняў.

**— Айцец Георгій, як здзяйсняецца пераклад свяшчэнных тэкстаў на беларускую мову? Ці задаволены Вы іх якасцю?**

— Праца перакладчыка вельмі карпатлівая. Святыя браты Кірыл і Мефодзій пераклалі на славянскую мову богаслужэбныя кнігі, частку Свяшчэннага Пісання, якая ўжывалася на службах святочных і нядзельных. Потым іх вучні і пераемнікі — Гарازд, Ангеляр і інш., у тым ліку і Ісайя Серскі — прадоўжылі гэту справу, і толькі Генадзій, архіепіскап Наўгародскі, склаў цалкам усю Біблію на славянскай мове (у гэтым годзе спаўняецца 500 год Генадзіеўскай Бібліі). Гэта праца заняла шмат гадоў. Таму мы не цешым сябе, што адразу за некалькі гадоў будуць перакладзены ўсе свяшчэнныя тэксты. А тым больш разумеем магчымасць і неабходнасць удасканалення і выпраўлення ўсіх гатовых тэкстаў. Таму прынцыпова важна побач з беларускімі тэкстамі захоўваць і берагчы тую "ўзвышаную, дасканалую, зграбную, высокамудрую" царкоўнаславянскую мову. Наша Біблейская камісія, створаная пры Беларускім Экзархаце ў пачатку 90-х гадоў, стараецца захаваць пры перакладзе на беларускую мілагучнасць тэкстаў, плаўнасць пры чытанні. І на дадзены момант вынікі працы добрыя, радуюць сэрца. Пастаянна ідзе працэс паляпшэння тэкстаў, пажаданні, меркаванні ўлічваюцца. Да перакладу Евангелля ад Матфея ёсць ужо шмат заўваг. Калі будзе выдавацца цалкам Чацвёраевангелле, яны будуць улічаны.

**— На фоне сучаснай сітуацыі ў праваслаўным свеце (узяць тую ж Украіну альбо Расію), як будзе выглядаць сітуацыя ў Беларусі?**

— Сітуацыі зусім розныя і на Украіне, і ў Расіі, і ў Беларусі. Напрыклад, у Расіі у шматлікіх храмах (не абнаўленчых) па неабходнасці Евангелле, некаторыя трэбы ці канон Андрэя Крыцкага чытаюцца на рускай мове. На Украіне раскол адбыўся не з-за ўжывання мовы. Але мова стала знакам нацыяналістаў супраць "маскалёў" (я адрозніваю нацыяналістаў ад нацыянальна свядомых людзей, якія любяць свой народ, культуру, мову).

Спакушэнні і ў нас могуць быць. Калі чалавек маркуе па знешніх прыкметах, а не бачыць самой сутнасці з'явы, дык, зразумела, будуць вялікія спакушэнні. Многае ў царкве бянтэжыць; скажам, трансляцыя богаслужэння па тэлебачанні, выкарыстанне дынамікаў, мікрафонаў, уведзенне электрычнага асвятлення ў храмах успрымаліся раней адмоўна. Трэба пераадольваць такія сумненні. Гэта нармальныя змены ў сілу культурных, нацыянальных акалічнасцей, важна толькі, каб гэтыя акалічнасці не супярэчылі сэнсу быцця праваслаўнай Царквы. Трэба разважаць, і галоўнае — памаліўшыся.

**— Калі дазволіце, пытанне асабістага характару. Вы навучаліся ў Санкт-Пецярбургскіх духоўных школах, доўга жылі за межамі Беларусі і, відаць, страцілі веданне беларускай мовы. Што вас прымусіла зноў яе вывучыць?**

— Да трэцяга класа я жыў у Лоеве, зносіны вяліся на беларускай мове, простанароднай. Потым мы пераехалі ў Рэчыцу, і там, я памятаю, мой класны кіраўнік абяцаў мяне выгнаць з класа, калі я не перастану размаўляць па-беларуску. Беларуская мова выкладалася вельмі некваліфікавана, памойму, настаўніцай... геаграфіі. Паступова ў мяне руская мова стала пераважаць. Беларуская засталася ў нейкім замарожаным стане, у сэрцы, у душы, усвядомленых адносін да яе не было. А ў семінарыі, калі я ўбачыў украінцаў, якія свабодна размаўлялі на сваёй мове, спявалі песні, гэта вельмі цёпла адгукнулася ў душы. Мяне прасілі сказаць што-небудзь па-беларуску, але атрымлівалася з цяжкасцю. Таму я пачаў купляць беларускія кнігі, на канікулах павышаў свой моўны ўзровень. Калі я вярнуўся з Ленінграда, у мяне было адназначна прыняцце беларускай мовы як сваёй роднай, якая мае права ўдзельнічаць у царкоўным жыцці.

**— І апошняе пытанне. Як прайшла першая літургія на беларускай мове?**

— Сказаць праўду, я вельмі хваляваўся, перажываў, хаця ёсць благаславенне Архіпастыра, але людзі шмат што па-свойму бачаць. Але калі пачалася служба, стараннія малітоўныя спевы хору, вялікая колькасць людзей (прычаснікаў было 59 чалавек), добры, цудоўны, узнёслы настрой у канцы літургіі мяне адназначна пракананалі ў неабходнасці і мэтазгоднасці ажыццяўлення. У нас ёсць жаданне служыць адзін раз у тыдзень, і то не замест царкоўнаславянскай, падкрэсліваю, а дадаткова.

**— Вялікі дзякуй за размову, айцец Георгій.**

**Гутарыла Марына БАХАРАВА**

## "Каласавіны"

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа стала добрай традыцыяй правядзенне "Каласавін". Дарэчы, лімаўскі чытач пра гэта інфармаваны. Але звычайна мы змяшчаем толькі кароткія карэспандэнцыі, якія хоць і даюць уяўленне аб гэтых мерапрыемствах, але не раскрываюць цалкам змест дакладаў і выступленняў, з якімі выступаюць удзельнікі "Каласавін" на штогадовых навуковых канферэнцыях. А між тым гэтыя матэрыялы вартыя, каб пра іх ведаць больш.**

**Спатоліць такую зацікаўленасць прыхільнікаў творчасці Я. Коласа, даследчыкаў яе дапаможа зборнік "Каласавіны", выпушчаны пад эгідай Коласавага музея вытворчым паліграфічным прадпрыемствам, якое, як вядома, носіць імя Я. Коласа. Змест кнігі склалі матэрыялы навуковай канферэнцыі "Праблемы рацыянальнага выкарыстання і захавання прыродных ландшафтаў мемарыяльных музейных аб'ектаў", што прайшла ў 1998 годзе.**

**На першы погляд, прывязка такога канкрэтнага пытання да творчасці Я. Коласа, выглядае надуманай. Але, як слушна заўважае М. Мушынскі ("Чалавек і прырода ў апавяданнях Якуба Коласа"), яго выступленнем якога кніга адкрываецца, "тое, што арганізатары... канферэнцыі спалучылі пытанні экалогіі, захавання прыродных ландшафтаў і творчасць народнага паэта — не выпадковасць. Гэта спалучэнне не штучнае, не прыдуманае, а натуральнае, бо ў асобе Якуба Коласа беларускае грамадства мае шчырага, паслядоўнага, мэтанакіраванага абаронцу роднай прыроды. І наш абавязак багаты духоўны вопыт Коласа-пісьменніка, ягонае разуменне прыроды зрабіць агульным здабыткам, бо толькі праз асабістае ўсведамленне кожным сваёй адказнасці перад прыродай, а гэта значыць і перад будучыняй, можна нешта здзейсніць у пазітыўным плане".**

**Невыпадкова на канферэнцыі прагучалі ўсхваляваныя выступленні не толькі даследчыкаў літаратуры. У прыватнасці, дырэктар Інстытута батанікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі В. Парфёнаў засяродзіў увагу на аспекце: "Навуковае пазнанне прыроды і літаратурнае адлюстраванне прыроды ў творчасці Якуба Коласа", у якім звярнуў увагу на неабходнасць беражлівага захоўвання мясцін, звязаных з жыццём і дзейнасцю песняра і ўнёс прапанову "ўтварыць у прыродным трохкутніку Падбярэжжа-Балачанка-Вусце мемарыяльны запаведнік — філіял існуючага мемарыяла на радзіме Я. Коласа. Гэтага патрабуе час абноўленай краіны, гэтага жадае наша памяць аб вялікім народным паэце Якубе Коласе". Матэрыялы кнігі даюць мажлівасць глыбей адчуць і лепш зразумець асноўныя аспекты творчасці Я. Коласа, якія ў той ці ў меншай ступені тычацца адлюстравання прыроды, раскрыцця яе ўздзеяння на чалавека: "Эстэтычныя і філасофскія погляды Якуба Коласа на прыроду" А. Бельскага, "Пейзажная лірыка Якуба Коласа" Я. Клімуця, "Выкарыстанне фальклорных сродкаў пры апісанні прыроды ў дарэвалюцыйных апавяданнях Якуба Коласа" Л. Камароўскай, "Палессе і палешукі вачыма Лабановіча" А. Шамякінай... Важна і тое, што выступленні на канферэнцыі засведчылі, наколькі асобныя творы Я. Коласа прыцягальны для некалькіх даследчыкаў: "Трансцэндэнтная змястоўнасць вобраза прыроды ў "Казках жыцця" Якуба Коласа Н. Капшай, "Асаблівасці жанравых форм і мастацкіх вобразаў у "Казках жыцця Якуба Коласа" А. Макарэвіча, "Казкі жыцця і міфалогія" Т. Шамякінай. А У. Навумовіч ("Канцэпцыя чалавека-гаспадара на роднай зямлі ў творчай спадчыне Якуба Коласа") звярнуўся да верша "Беларускаму люду", "які напісаны на пачатку нашага стагоддзя, але які гучыць вельмі надзённа, і ў якім выражаны боль, пакуты і роздум аб лёсе Бацькаўшчыны, выяўлена вера ў магчымасць самім стаць гаспадарамі свайго лёсу". Гэты верш не трапляў у Зборы твораў Я. Коласа, бо матывы яго не адпавядалі палітыцы "разгаспадарання" чалавека, якая праводзілася не адно дзесяцігоддзе афіцыйнай ідэалогіяй.**

**Над падрыхтоўкай гэтага вельмі карыснага выдання працавалі М. Далідовіч, Г. Зайцава, І. Курбека. Адказная за выпуск З. Камароўская.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ВІНШУЕМ!

# Не залечваюцца душэўныя раны...

## Міколу АЎРАМЧЫКУ — 80

Кожны, хто прачытае верш "Мая Бабруйшчына зялёная...", адразу ўпэўніцца, адкуль паэт родам. Так шчыра, прачула, надзіва лірычна сказаць пра гэты куток Бацькаўшчыны мог толькі той, каго ён узгадаваў, а таму назаўсёды засталася ў сэрцы ўдзячнасць да яго, і акурат тут, на гэтай зямлі, засталося так шмат знаёмцаў:

***Куды ні траплю —***
***ў Туркі,***
***Панкратавічы або Лейчыцы, —***
***Мяне сустрэнуць сваякі.***

***Панюшкавічы дзесь***
***пад бокам тут...***
***Змаглі адгэтуль у жыцці***
***З якойсьці Глушы***
***ці Пабокавіч***
***На свет пісьменнікі прыйсці.***

***Гісторыя няўмольна пакарала,***
***Яго імя аддаўшы забыццю.***

***Вярнуўшы добрае імя старое,***
***Закона справядлівая рука***
***Уваскрасіла з мёртвых, як героя,***
***Былога нашага палітрука.***

***Чужою славай радавым не ласавацца...***
***Але мне крыўдна ўсё ж, што пакрысе***
***У мове прыжылося слова ўласаўцы, —***
***Джамільцы ж слова***
***ведаюць не ўсе.***

Перад вайной М. Аўрамчык вучыўся на філалагічным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага, куды паступіў у 1938 годзе. Адначасова працаваў у рэдакцыі газеты "Піянер Беларусі". На той час меў паэтычныя публікацыі ў друку (з першым вершам выступіў у 1937 годзе ў бабруйскай газеце "Камуніст"). Што было далей, расказвае ў аўтабіяграфіі "Пра сябе": "Вестка аб вераломным нападзе гітлераўскай Германіі на нашу краіну застала мяне ў інстытуцкай чытальні, дзе я рыхтаваў апошні экзамен за трэці курс. Уначы 26 чэрвеня з Міколам Сурначовым мы пакінулі ахоплены полымем Мінск..." Трапіў на фронт, а пасля...

***Накшталт мядзведзя касалапага,***
***Я ў дол закручваў***
***бор густы***
***І мераў***
***ад Хімоў да Ламбава***
***Твае тарфяныя пласты.***

І чым далей чытаеш верш, тым больш упэўніваешся, што гэта своеасаблівая сыноўняя споведзь, а таму аўтар імкнецца быць як мага больш дакладным, нічога не прапусціць з таго, што запомніў з маленства і што праз гады адзываецца ў сэрцы і радасцю, і ціхім смуткам:

***Ля ступянёў***
***і за Цялушаю***
***Майго кахання***
***з той пары***
***Сляды нічым не зацярушаны —***
***Цвітуць пралескамі ў бары.***

А яшчэ Бабруйшчына дарагая М. Аўрамчыку таму, што "і нават прозвішча бабруйскае У спадчыну... дала".

Праўда, у творы так і не згадваецца вёска, дзе паэт упершыню пабачыў свет, а гэта Плёсы, па цяперашнім адміністрацыйным падзеле — Бабруйскі раён.

Верш пісаўся ў 1970 годзе, калі за плячыма ў паэта быў поўдзень веку. Магчыма, і не так шмат было пражыта, асабліва з агледзін сённяшняга 80-годдзя. Але столькі пражыта, выпрабавана, вынесена, што далёка не кожны змог бы выстаяць. Дый, не дай Бог, нешта падобнае каму яшчэ зведаць.

А што зведаў Мікола Якаўлевіч, у многім відаць з верша "***Каб гэтакага лёсу вы не мелі" — аднаго з лепшых твораў паэта. У кожным радку — боль, які з гадамі не слабее, бо фізічныя пакуты праходзяць, а маральныя застаюцца, і чым больш жывеш, тым мацней дае знаць аб сабе несправядлівасць:

***Каб гэтакага лёсу вы не мелі,***
***Наканаваны мне ў жыцці які:***
***Бо вязні —***
***лічаць вязнем падзямелля,***
***Франтавіком —***
***завуць франтавікі.***

***Пад Чудавам я цудам не забіты.***
***Прапаў без вестак я ў Мясным Бары***
***І ў Руры,***
***богам і людзьмі забыты***
***Ледзь выбраўся з падземнае нары.***

***А нашага былога генерала,***
***Які пайшоў***
***насуперак жыццю,***

Зноў слова самому паэту: "У пачатку 1942 года нас, студэнтаў з незакончанай вышэйшай адукацыяй, тэрмінова выклікалі ў Маскву. Там мы і разлучыліся з Сурначовым, бо трапілі ў розныя часці.

Я з "кацюшай" апынуўся на паўночным захадзе. Гвардыі радавым ваяваў на Волхаўскім фронце.

У канцы чэрвеня 1942 года пры акружэнні каля Мяснога Бору трапіў у фашысцкі палон. Быў вывезены ў Рур на каменнавугальную шахту горада Марль, які знаходзіцца на поўнач ад Эсена". Там было сапраўднае падзямельнае пекла, калі зняволеныя штодня па сутнасці вялі паядынак са смерцю: "Кожны дзень на досвецці з лагера да шахты канваіры прыганялі вялікую калону палонных, абвітую гірляндай шахцёрскіх лямпаў. Нявольнікаў апускалі ў падзямелле. У лагеры лупцавалі кіямі паліцаі, па дарозе да шахты штурхалі прыкладамі канваіры, а ў падзямеллі кайлом білі штэйгеры і іх памочнікі.

Ад стандартнага рацыёну — невялічкай пайкі хлеба-сурагату і двух літраў незапраўленай баланды са шпінату або сушанай бручкі — мы ледзь перастаўлялі ногі.

Кожны месяц з лагера вывозілі трыццаць—сорак хворых туберкулёзам.

Калі б не малады, юнацкі арганізм ды не падтрымка і дапамога аднаго нямецкага шахцёра, дык я, напэўна, не выжыў бы ў гэтым пекле".

Такое не можа забыцца, "успаміны аб ім і цяпер не даюць... спакою". Але з заканчэннем вайны выпрабаванні для М. Аўрамчыка не кончыліся. Вызвалены ў канцы красавіка 1945 года англічанамі "і перасялены ў размяшчэнне савецкіх войск", ён праз некаторы час трапіў на Украіну, на аднаўленне Данбаса.

Пра ўсё гэта можна прачытаць у шмат якіх творах паэта. Іншая справа, што многія з іх пісаліся ў той час, калі праўда была "прэпарыраванай", таму нельга было ўсё гаварыць. Нешта не дагаворвалася, нешта падавалася так, што дайсці да сутнасці маглі ў асноўным толькі тыя, хто добра ведаў пэўныя рэаліі біяграфіі М. Аўрамчыка.

Гэта тычыцца і верша "Анкета", які даў назву аднатомніку выбраных твораў Міколы Якаўлевіча, які выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў 1990 годзе (у 1980 годзе выходзілі Выбраныя творы ў двух тамах). "Анкета" прысвечана Янку Брылю. Упершыню гэты верш быў змешчаны ў кнізе М. Аўрамчыка "Ключы жураўліныя", які пабачыў свет у 1960 годзе. Ён з тых, што пішуцца крывёю сэрца і болем душы. У ім знітаваны перажытае ў гады вайны і водгалас даўніх падзей, які з цягам часу прымушае тых, хто шмат перажыў і зведаў, асцерагацца, нават баяцца, бо залішнюю адкрытасць маглі зразумець не так, як трэба:

***Пяро паўзе павольна***
***па радках,***
***Паўзе са скрыпам***
***пад рукой тваёю...***
***На гэтае пытанне***
***свой адказ***
***Ты пішаш не чарнілам,***
***а крывёю.***



***Бо аніякім лекарам сівым***
***Ніколі не залечваюцца раны***
***На сэрцы у таго,***
***хто быў жывым***
***З крывёю ад радзімы адарваны.***

І як шмат сказана ў гэтых двух радках, які значны ў іх падтэкст?! — "Заўжды ў анкету лёгка заглянуць, Але ў душу так проста не заглянеш". А каб зазірнуць у душу М. Аўрамчыка, трэба ўважліва прачытваць тыя яго вершы, у якіх лірычны герой несупынна крочыць дарогай памяці. А памяць — гэта баі, чужыя паўстанкі:

***Не ведаць бы,***
***як юнаком***
***Глядзець на Еўропу балюча***
***Праз краты вагонных акон,***
***Праз дрот заржавелы калючы.***

Памяць — гэта і тое, што нельга цалкам усвядоміць, калі не сутыкнешся з ім наяву: "Я ведаю, як без надзей, Апошнюю страціўшы веру, Дзічэў чалавек між людзей, Завыўшы ад жудасці зверам".

І верш "***Не ведаць бы, як юнаком", і іншыя напісаны М. Аўрамчыкам тады, калі з'явілася мажлівасць зірнуць на тое, цяпер ужо даўняе, са значнай адлегласці. І прычыны не толькі ў тым, што ў гады вайны паэт знаходзіўся ў абставінах, калі было не да таго, каб нешта пісаць. З цягам часу многія ваенныя рэаліі ўсплываюць асабліва рэальна-асязальна і іх удаецца перадаць праўдзіва, запамінальна, уражвальна.

Гэта, аднак, не значыць, што ў вершах М. Аўрамчыка ваеннага і пасляваеннага часу няма таго, што і цяпер не страціла сваіх вартасцяў — і жыццёвых, і паэтычных. Узяць хоць бы верш з традыцыйнай, увогуле, назвай — "Уначы перад наступленнем". Ва ўсякім разе, шмат хто з паэтаў, каму давялося прайсці дарогамі вайны, пра гэта пісаў. Але ў вершы ёсць тое, чаго іншыя сказаць не здолелі:

***Адчуваеш, як пад плашч-палаткай***
***Прабіваецца з зямлі мурог...***

А якое цудоўнае завяршэнне верша "У



З Міколам НАГНІБЯДОЙ. 1971 г.



З Алесем ЖУКОМ у Доме творчасці Каралішчавічы. 1980 г.

муляла. Вазьмі ды й скажы ім пра цуда-юда, якое ўбачылі мы з жонкаю ранічкою, на ўсходзе сонца. Не паспеў і расказаць зболь-шага, як Тома мяне перапыніла:

— Коля, дык гэта ж індавутка была!

— Якая... індавутка? — не датумкаў я.

— Ну, індавутка. У Макрыцкіх яны ёсць. Сёлета завялі іх, індавутак...

— Не ўсёк, — па-папанаўску закруціў я галавою. — Што гэта за стварэнне такое, індакачка, ці індавутка, як ты кажаш?

Пэўна, выгляд у мяне быў збянтэжаны, бо й Зіна пачала мне тлумачыць:

— Вывелі недзе гэтых індавутак. Ад індыка і качкі. Агуркі ёсць такія — гібрыд называюцца. Дык і гэта гібрыд. Вялікія растуць, як індыкі, але плаваюць, як качкі. І кормяцца, як качкі. Пусціў на ваду — і карміць не трэба... Па-руску — індавутка, а па-нашаму, пэўна ж, будзе індакачка? А ліха яго ведае! — засмяялася Зіна. — У Макрыцкіх яны ёсць і ў Грачковых, здаецца. Дык у Макрыцкіх адна лётае па сяле. І ў мяне была. Я таксама перапалохалася, як тое страшыдла ўбачыла...

Слухаў я жанчын і, вядома ж, вушам сваім не верыў. Цуда-юда й ёсць! Спалучыць індыка і качку? Знарок не прыдумаеш! Грушы на вярбе! Абаранкі на яблыні! Рост, маса і мяса — індычыныя, а харч, паша і пражэрлівасць — качыныя! Памры, Гаўрыла, лепей не прыдумаеш! Прыгадаўся казлатур — плён пісьменніцкай фантазіі славутага масквіча-каўказца Фазіля Іскандэра. Дык яка індакачка — ці не мудрэй за казлатура!

— Але, — пасміхнуўся я, зноў пакруціў галавою, — чаго на свеце не бывае. На свеце пажывеш, дык і Кузьму бацькам назавеш... Гэта ж трэба: індакачка!

Адчуваў, разумеў, што тут нешта не тое, што ёсць тут нейкая загадка, а вось жа дадумацца да таго, што гэтае "інда" паходзіць зусім не ад індыка, што корань яго той жа, што і ў слове "індаеўрапейскі", скажам, — чамусьці не дадумаўся. Ну вельмі ж ужо займальная байка атрымлівалася пра цуда-юда. Прытым жа не проста байка! Сам жа на свае вочы бачыў яго! Стаяла на плоце ў нашым гародзе! Тут хосьці-няхоцькі паверыш у нашага беларускага казлатура!..

Расказаў пачутае ад жанчын жонцы. Яна палола цыбулю. Адарвалася Марыся ад грады, таксама недаверліва паздзіўлялася — маўляў, глупства, не можа быць такога гібрыда — качына-індычынага, але пасля згадала, як і я, дасціпную народную казачку з рэфрэнам: "Свет вялік, можа, й праўда!", і, зноў нагінаючыся над градою, сказала ці то мне, ці то сабе:

— Трэба ж прыдумаць — індавутка!..

Цэлы доўгі ліпеньскі дзень не-не дый прыгадвалі мы з жонкаю гэты незвычайны выпадак — сустрэчу з індакачкаю ў сябе на гародзе. Прыгадвалі і — зноў здзіўляліся, зноў смяяліся, пагадзіўшыся-памеркаваўшыся нарэшце на тым, што й гэтая сустрэча з цудам-юдам застанецца памяткаю пра наша летаванне ў перад апошнім годзе стагоддзе ў Слабадзе, своеасаблівай яго акрасай. Маўляў, мінецца лета, скончыцца восень, прыйдзе зіма — а яна, кажуць, будзе лютай, снежнай і марознай, — і тады разам са згадкаю пра лета абавязкова згадаецца і сагрэе нас і сённяшні сонечны ранак, калі на нашым плоце паблізу калодзежа стаяла на таўсматых кароткіх нагах-лапах цуда-юда... чарнобыльскі мутант... абгарэлы бядак-глушэц з Айнараўскага бору... індавутка з птушынай чарады першага і пакуль што адзінага слабодскага фермера Макрыцкага...

**P.S.** Тут быў і скончыў я гэты свой аповед, але потым парашыў сёе-тое дадаць. Памеркаваў, што будзе дарэчы невялічкая выпіска з энцыклапедыі з артыкула "КАЧКІ свойскія", куды я не мог не зазірнуць. А зазірнуўшы, прачытаў там вось што: "Шляхам штучнага адбору і падбору палепшаны гаспадарча-карысныя прыкметы, выведзены новыя пароды качак. М у с к у с н а я. Парода мяса-яечнага тыпу. Выведзена ў Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыцы. Качкі маюць падоўжаны шырокі корпус з доўгімі моцнымі крыламі. На галаве, вакол вачэй і каля асновы дзюбы ёсць ружавата-чырвоныя мясістыя барадаўкі. У перыяд размнажэння ад качараў ідзе пах мускусу. Апярэнне ад белага да чорнага з рознымі адценнямі і стракатасцю. Качкі добра лётаюць, амаль не кракаюць, а выдаюць нізкае па тону шыпенне. Вельмі спакойныя. За 4-5-месячны цыкл яйкакладкі самкі нясуць 80-100 яек масай 75-80 г. Інкубацыйны перыяд яек — 34-35 дзён. Сярэдняя маса качараў 5 кг, качак 2,3-2,5 кг. Мяса мускусных качак смачнае, нагадвае бараву дзічыну, мае да 20% тлушчу. У нашай краіне мускусных качак называюць індакачкай, шыпуном, барадаўчатай. Жыццяздольнасць добрая. Пры скрыжоўванні мускусных качараў з качкамі іншых парод атрымліваюць бясплодных гібрыдаў (мулардаў), але з добрымі мяснымі якасцямі".

Вось на гэтым і стаўлю нарэшце апошнюю кропку.

**М. Г.**

# Беларусь паміж Сцылай і Харыбдай

*(Праціг. Пачатак на стар. 5)*

**V**

Вядома, рана ці позна самы звычайны інстынкт замазахавання павінен быў падказаць нашым беларускім "Саўкам", што небяспечна не толькі прыклад браць з суседскага "парадку", але і блізка да ягонае хаты падыходзіць, бо там сапраўдны вэрхал. Выграблі новыя Сцяпанавыя "дзеткі" з яе што маглі. Да таго ж пастаянна тузаюцца між сабою, аж да крыві вялікай.

Кажуць, што ёсць у нашага суседа "Сцяпана-Івана" яшчэ адна надзея — запасы нафты і газу. Але і наконт яе лёгка прасачыць геастратэгічную тэндэнцыю — і тут заганяюць суседа ў вельмі жорсткае структурнае рэчышча сусветнай палітыкі і фінансавай сістэмы, калі ён зможа прадаваць энергасыравіну не столькі, колькі патрэбна, а колькі дазволяць. Тут, дарэчы, нельга не адзначыць, што хоць і пераконваюць свет, быццам бы ніхто асабліва не зацікаўлены ў развале Расіі, як адзінай дзяржавы, але, відаць, усё ж такі ёсць сілы, якія не могуць дараваць ёй свой мінулы страх...

Мы не будзем падрабязна закранаць іншыя, не меней істотныя аспекты, якія цягнуць "Сцяпанаву" гаспадарку на дно. Тыя ж вялізныя сілавыя структуры, татальная крыміналізацыя практычна ўсіх узроўняў улады, што выразна праявілася падчас выбарчай кампаніі. І на дэсерт — няўхільная і вельмі неспрыяльная для Расіі геапалітычная трансфармацыя свету ў прынцыпова новую сістэму стасункаў... Зрэшты, трэба спыняцца і разам з Гогалем яшчэ раз спытацца: "Куда несешся, Русь...?"

Праўда, калі казаць шчыра, то ніхто не чакае беларусаў і ва ўладаннях багаценькай заходняй Харыбды, дзе да нас сёння ставяцца, мякка кажучы, не вельмі прыязна. І ў тым вінаватыя сёння не толькі ўлады. Бадай што, у многім і мы, простыя грамадзяне, адказныя за тое, што тамтэйшы "obywatel" шчыра пераканаў, быццам усе беларусы спяць і бачаць сябе ізноў у адроджанай савецкай імперыі. І, зразумела, толькі пра тое і мараць, каб учапіцца аберуч за ядзерную дубінку і размахваць ёю над ангельскімі, французскімі, польскімі ды іншымі галовамі. Мы практычна мала што робім на ўзроўні асабістых, прыватных кантактаў, каб зліквідаваць тыя шматлікія міфалагемы-страшылкі, якіх яшчэ ой як многа ў тых, зрэшты зусім недурных, галовах.

Хто ведае, ці не таму сёння сталі задуваць на еўрапейскім палітычным полі новыя і малапрыемныя нам вятры. У нашай прэсе пачалі з'яўляцца меркаванні як нашых, так і расійскіх аналітыкаў, якія перакананыя, што ў святле інтэнсіўных саюзных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй на Захадзе ўсё менеей успрымаюць нас у якасці самакаштоўнага і самадастатковага суб'екта міжнароднага права. Там, маўляў, пачынаюць усё болей прыходзіць да высновы, што абмяркоўваць нейкія праблемы наўпрост з Беларуссю наўрад ці мэтазгодна. Нашмат прасцей рабіць гэта непасрэдна з расійскімі лідэрамі. А Беларусь дасягнутыя такім чынам кампрамісы мусіць будзе адобрыць.

Што ж, як бачым, нас ужо рыхтуюць да новага стагоддзя і тысячагоддзя... Не сакрэт, што ў Захаду, як умоўна цэльнай сістэмы, была і застаецца неадметнай задача — правесці належную трансфармацыю ў пэўных постсавецкіх рэгіёнах прыўсяляякіх варунках. І не выключана, што там усё болей схіляюцца рабіць гэта не наўпрост, а праз Маскву, палітычная эліта якой сёння знаходзіцца ў жорсткай залежнасці ад добрай волі заходніх фінансавых інстытутаў. Зразумела, эканомячы такім чынам значныя сродкі ды і сілы. А тое, што такая "трансфармацыя" абавязкова будзе завершаная рана ці позна, сумнявацца наўрад ці даводзіцца, улічваючы цяперашні рэальны палітычны, эканамічны ды і ваенны патэнцыял Захаду...

**VI**

Зусім не хочацца, завяршаючы гэты матэрыял, перайсці да танальнасці накшталт "Вось табе і прыехалі", і на расейскі манер ірваць кашулю на грудзях... Бо, як казаў стары Абрам з вядомага анекдота: "А каму цяпер лёгка?".

Зразумела толькі, што цяперашняя канцэнтрацыя нашых праблемаў мусіць рана ці позна неяк дайсці да сваёй крайняй мяжы і "маятнік" гісторыі памкнецца ў іншы бок. А, значыць, прыйдзе нарэшце і час выйсця з мораку тых даўніх і трывалых ілюзій і міфаў, якія так доўга пануюць над нашай свядомасцю.

Вельмі хочацца верыць, што ў 2000-м годзе канчаткова акрэсліцца для Беларусі ўсе вектары на шляху яе далейшага развіцця і мы дачакаемся, калі і не "залацістага, яснага дня", то хоць бы нейкіх праблісакаў. Які будзе той шлях — шлях росквіту і годнага месца на "пасадзе між народамі" ці чарговы тупік, у які нашая краіна ўжо не раз трапляла ў сваёй гісторыі, пакуль цяжка сказаць. Але менавіта на вялікім зломе стагоддзяў і тысячагоддзяў, Беларусь мусіць сама вызначыць свой далейшы лёс. 2000-ы год павінен прынесці развязку многім пытанням, якія сёння спляліся ў заблытаны клубок, і на тое сёння паказваюць шмат відавочных фактараў...

•

Падчас нашага нялёгкага "праплыву" праз праліў жыцця па-ранейшаму з двух бакоў няўхільна і грозна навісаюць над намі суровыя Сцыла і Харыбда і цярпліва чакаюць пакуль мы аслабнем на плыву, каб зацягнуць нас у свае віры. Кажуць, што быццам бы трэцяга нашаму небараку "Саўку" не дадзена. І мы, маўляў, рана ці позна пад невыносным цяжарам сваіх грахоў, хінёмся ўрэшце ў роспачы ў які-небудзь з гэтых бакоў, стаўшы неад'емнай часткай або бяскрайняга "брацкага" стэпу, або глыбокага буржуйскага "балота". Але ці не паспрабаваць нашаму Саўку неяк выкруціцца?!

І гэтая думка падаецца нам не такой ужо і фантастычнай. Бо мы, беларусы, што б там на нас ні казалі, — не такія ўжо безнадзейныя грэшнікі і да таго ж і "самі з вусамі". І яны нікуды не дзеліся — тыя нашыя вякамі пеставаныя цудоўныя вусы — сапраўдны гонар беларускай нацыі! І хоць за апошнія 200 гадоў яны крыху "знасіліся", часткова страціўшы сваю ранейшую фанабэрыю і сілу, яны пакуль што на месцы і мы не збіраемся ахвяраваць імі, нават дзеля самай вялікай любові!

НОВАЕ

# Шукаю сваіх продкаў

Карані, як вядома, ёсць не толькі ў раслін. Існуюць яны і ў людзей — як нябачныя ніці, што звязваюць нас з вядомымі і забытымі продкамі.

Забытых, на жаль, куды болей. Толькі чаму мы сталі лічыць такую недарэчнасць нормай? Няўжо нам нецікава ведаць, ад каго мы ўзялі тыя ці іншыя рысы характару, чый генетычны код кіруе нашым лёсам?

У апошні час узмоцненую цікавасць да сваіх радаводаў адчуваюць не толькі ўладальнікі арыстакратычных прозвішчаў. Генеалагічнае дрэва можа вырастаць з розных саслоўяў і быць не менш разгалінаваным і плодным. Кожны з нас самім фактам свайго існавання звязаны з незлічонай колькасцю папярэднікаў. Не выключана, што нехта з іх быў у дружыне Вітаўта альбо ў войску Канстанціна Астрожскага.

Але неабавязкова сягаць у часе так далёка. Знайсці хоць бы продкаў "да сёмага калена". Адзін са спецыялістаў "радаслоўнай службы" выявіў, што зыходнае звяно такога ланцужка аказваецца ў 18-ым стагоддзі.

Мы ведаем, якую займальную кнігу напісаў Уладзімір Ліпскі на аснове генеалагічных "раскопак". Не менш плённая спроба зроблена Уладзімірам Арловым ("Мой радавод да пятага калена"). Наперадзе шмат працы і ў іншых творцаў.

У далёкае падарожжа па былых стагоддзях цяжкавата выбрацца аднаму. Жадаючым можа дапамагчы рэкламнае агенцтва "Парадокс" (тэлефон у Мінску 229-25-15). Пры ўмове, вядома, што вы заключыце з ім адпаведную дамову.

Хто шукае, той заўсёды знойдзе! Менавіта так у вольным перакладзе гучыць папулярны біблейскі выраз, які ад пачатку свету вёў наперад усіх першаадкрывальнікаў. Спецпраект "Шукаю продка" заклікаць пацвердзіць гэтую старую ісціну і зрабіць нашае жыццё больш асэнсаваным.

**Калектыў выдавецтва "Юнацтва" выказвае глыбокае спачуванне вядучаму рэдактару СЯБЕЖЫЦЫ Т. Л. у сувязі з вялікім горам — смерцю бацькі.**

ГАСЦЁЎНЯ

# Валерый МАЗЫНСКІ: "Тэатр наш—нацыянальны"



**З МАСТАЦКІМ КІРАЎНІКОМ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ТЭАТРА БЕЛАРУСКАЙ ДРАМАТУРГІІ Валерыем МАЗЫНСКІМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ЛіМа"**

**— Вы вось толькі з рэпетыцыі. А што, Валерый Яўгенавіч, калі не сакрэт, рэпеціруеце?**

— Зараз мы аднаўляем адзін з самых лепшых нашых спектакляў "Барбара Радзівіл". Так сталася, што нашы маладзенькія дзяўчаткі сталі мацяркамі, і таму вось ужо два гады мы гэты спектакль не гралі. Цяпер уводзім некаторых новых выканаўцаў, і ў канцы лютага дадзім другую прэм'еру.

**— А ці чакаць якіх навінак у гэтым годзе?**

— Ведаеце, пытанне складанае, бо ёсць праблемы з фінансаваннем.

**— Тады падзяліцеся, калі ласка, сваімі задумамі, планамі.**

— Пра планы... У мінулым годзе ў нас у планах тры спектаклі былі. Але мы зрабілі ўсяго адзін. А на гэты год застаўся з мінулага незакончаны "Прынц Мамабук" Аляксея Дударава. Яшчэ дыпломная пастаноўка Міхася Краснабаева, акцёра Коласаўскага тэатра, што пайшоў у рэжысуру. Ён хацеў бы паставіць на нашай сцэне "Ладдзю роспачы" Караткевіча. І п'еса "Блазан", парафраз, па далёкіх матывах п'есы Міровіча "Кавальваявода", напісаная ў свой час па просьбе тэатра Максімам Клімковічам і Уладзімірам Сцяпанам. Чакаем завяршэння конкурсу драматычных твораў, арганізаванага Міністэрствам культуры.

**— Вы маеце эксклюзіў на ўпадабаныя п'есы гэтага конкурсу? Альбо іншыя тэатры таксама на іх прэтэндуюць?**

— Ды не, у нас яшчэ мала п'ес, за якія б пачалі біцца тэатры, каб нейкі эксклюзіў на гэта набываць. Наадварот, мы стараемся прапагандаваць тыя ці іншыя творы розным тэатрам. Але цяжка нават гэта ідзе, хоць Міністэрства культуры дае сродкі, дзяржзаказ. Карацей, патоку няма. І не можа быць. Дай Бог, каб у год з'яўлялася адно імя новае. А так пакуль хто? Аляксей Дудараў, Алена Папова, нашыя два драматургі, якія, так сказаць, "вярняк". Цяпер амаль усе тэатры на Беларусі "Чорную панну" схапілі. Усе зацікавіліся, хоць па-рознаму ставяцца да гэтай драматургіі, многія лічаць, што няма там псіхалагічнай глыбіні. А на мой погляд, тое, што Дудараў у цяперашні час робіць, вельмі важна. Да яго ніхто з чыстых драматургаў не падымаў такім вось чынам гістарычныя падвалiны, пласты гістарычных падзей і дзеячаў. Быў Петрашкевіч, але яго "Францыск Скарына" як след, на жаль, не загучаў. Гэта феномен, што Дудараў так пайшоў па тэатрах сёння. Глядзельныя залы — значны паказчык. Можна па-рознаму ставіцца да таго, што робяць тэатры, але глядач відавочна галасуе ў дадзеным выпадку, як кажуць, нагамі. Поўныя глядзельныя залы. З Гродна пасля прэм'ераў мне тэлефануюць, што біткам набітыя залы на "Чорную панну", на "Уладзіміра і Рагнеду". Значыць, ёсць запатрабаванасць, ёсць попыт на гэта.

**— Такім чынам, паколькі ёсць попыт, тэатры будуць арыентавацца менавіта на падобную тэматыку?**

— Натуральна. Я думаю, у нас там такі непадняты дзірван, столькі постацей!..

**— А чаму, як вам здаецца, гэткая цікавасць людзей да гісторыі абуджаецца менавіта праз тэатры?**

— Гэта магло адбывацца і праз кіно, але яно вельмі вялікія сродкі вымагае. Ды й потым тэатр больш шчыра на гэта адгукаецца, і тэатр наш — нацыянальны. А нацыянальнага кіно ў нас, як не было, так і няма. Заўсёды было расійскае, рускае, і як бы яго не называлі беларускім. У тэатрах ніхто, нідзе, ні разу не сказаў, маўляў, чаму Барбара Радзівіл, Жыгімонт, Рагнеда гавораць па-беларуску. Прычым глядач розны — татарын, рускі, беларус. Прычым у тым жа Гродзенскім рускім тэатры, Брэсцкім рускім тэатры, у тым жа Гомельскім рускім тэатры, дзе я працаваў. Ведаю з уласнай практыкі. Таму што гэта арганічна. А вось калі ідзе "Шляхціц Завальня" па-руску, то гэта, прабачце, неарганічна.

**— А што непасрэдна да спраў "Вольнай сцэны", ваш стары рэпертуар застаецца ці што-небудзь здымаецца?**

— Мы ўжо адмовіліся, бо занадта многа спектакляў у рэпертуары, ад "Развітання з Радзімай" Алены Паповай, знялі п'есу Чэхава. Прэм'еры выціскаюць тое-сёе са старога рэпертуару. Мы не можам бясконца пашырацца. У нас няма куды рэквізіты і дэкарацыі пакласці. Будзем трымаць 6-7 спектакляў — не больш. Відаць, у сённяшніх варунках будзем ставаніцца ўсё бяднейшым і бяднейшым тэатрам. Мусім ісці гэтым шляхам. Беларускі тэатр — значыць, бедны тэатр.

**— Кажаце, публікі да вас прыходзіць шмат. А як вы лічыце, усё ж — ваш тэатр элітарны альбо на любыя густы?**

— Я і назваў тэатр "Вольнай сцэнай" не ад таго, што тут ёсць, і ўсе чамусьці яе бачаць, нейкі палітычны падтэкст. А зусім ад другога. "Вольная сцэна" — значыць, вольная да ўсіх жанраў, да ўсіх цікавых п'ес беларускай драматургіі. Само па сабе гэта вымагае ад мяне адмовы ад строгай рэпертуарнай палітыкі. Рэпертуарную палітыку ствараюць самі творы.

**— "Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць" па-ранейшаму папулярны?**

— Па-ранейшаму. Ён і будзе папулярным, на жаль, яшчэ доўга. Мабыць, нідзе так, як у нас. Між іншым, у статуце "Вольнай сцэны" запісана, што мы не толькі беларускую драматургію збіраемся ставіць, але і лепшыя творы сусветнай. Пры гэтым яшчэ не перакладзеныя на беларускую мову.

**— Да ўсяго вы выконваеце яшчэ і перакладчыцкую функцыю?**

— Для мяне гэта вельмі важны момант. Памятаю, як раней, на пачатку маёй творчасці, перакладалі на беларускую мову! Адносіны да яе былі як ці пагардлівыя і несур'ёзныя. І для мяне гэта стала праблемай. Гэта проста класічная, па-мойму, аксіёма, што перакладчык павінен быць не менш таленавітым, чым сам аўтар. Таму ў нас перакладае Васіль Сёмуха, а калі праводзіўся фестываль сучаснай нямецкамоўнай драматургіі, зусім нечакана знайшлі для сябе цудоўную, тонкую перакладчыцу Галіну Скакун. Стараемся перакладаць арыгіналы. Мы сутыкнуліся з другой праблемай: у нас няма перакладчыкаў. Ёсць, вядома, лінгвістычны інстытут, але тых, хто, ведаючы мову, пры гэтым разумее драматургію і адчувае беларускае слова, вельмі мала. У нас нават канкурэнцыі ў гэтым плане няма. Гэта гаворыць і пра інтэлектуальны ўзровень нацыі. Калі параўнаць, колькі ў нас перакладзеных твораў сусветнай літаратуры, з тым, што маюць літоўцы ці эстонцы, то нам будзе сорамна.

**— Мабыць, матэрыяльная неўладкаванасць проста надзвычайна адбіваецца на маральна-мастацкім стане?**

— Адназначна. Мы ж людзі эмацыянальныя, працуем нервамі. Любая дробязь адразу адбіваецца на энергетыцы акцёраў, на іхніх настроях. Для акцёра самая вялікая радасць — рэпетыцыя і спектакль, рэпетыцыя нават у большай ступені, чым спектакль. А для рэжысёра — толькі рэпетыцыя. Рэжысёр у адрозненне ад акцёра пазбаўлены магчымасці граць на сцэне. Рэпеціруем, але мала. З вядомай прычыны. Мы не можам рэпеціраваць вечна — акцёр згарае. Мы павінны мець пэўныя кропкі і тэрміны, калі заканчыць гэтую справу. А зараз сітуацыя такая, што мы не ведаем, калі будзем шыць касцюмы, рабіць дэкарацыі. Таму рэпетыцый праходзяць чыста псіхалагічныя, каб і акцёрам быць у форме, і не замазоліць, што ёсць. Мы разумеем усю сітуацыю, але нічога не можам зрабіць, акрамя таго, як чакаць. Чакаць...


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА ЛіМ ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 13.01.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 183

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## Рампа

***У мінулую суботу ад шостай да сёмай вечара прайшоўся па сталічных тэатрах. Дзеля эксперыменту — ці можна купіць кветкі на вячэрнія спектаклі. Але нават на заўтрашнія не было. Карацей, амаль усюды — аншлаг. А мо гэта толькі на Каляды? У любым выпадку, варта набываць білеты загадзя.***

**Купалаўскі тэатр**

*15 студзеня* — народная драма "Страсці па Аўдзею"
*16* — "Піраміда Хеопса" і "Ажаніцца — не журыцца" (раніцай, у 11.30)
*19, 20, 21, 22 і 23* — "Князь Вітаўт"

**Малая сцэна Купалаўскага**

*14* — "Крывавая Мэры"
*17* — "Тут жывуць людзі"
*21* — "Дагарэла свечачка"

**"Вольная сцэна"**

*14* — "Стомлены д'ябал"
*15* — "Лекар паняволі"
*16 і 18* — "Узлёт Артура Уі"
*21* — "Містэр Розыгрыш"

**Малы тэатр (у Доме афіцэраў)**

*15 і 20* — "Камедыя"
*22* — "АРТ"

**Рускі тэатр імя Горкага**

*15* — "Гамлет"
*16* — "Вар'ят і манахіня"
*18* — "Адзіны спадчыннік"
*20 і 21* — прэм'ера "Баляванне падчас чумы і..." паводле Пушкіна
*22* — "Раскіданае гняздо"

**Маладзёжны тэатр**

*14 і 15* — "Жаніцьба"
*19 і 20* — "Тойбеле і яе дэман"

**Тэатр-студыя кінаакцёра**

*16* — "Філумена і Мартурана"
*20* — "Выкраданне Алены"
*22* — "Тэатр купца Япішкіна"

**Оперны тэатр**

*15* — "Баль-маскарад" Дж. Вердзі
*16* — мюзікл "Пітэр Пэн"
*17* — "Севільскі цырульнік" Дж. Расіні
*20* — "Аіда" Дж. Вердзі
*22* — "Тоска" Дж. Пуччыні

**"Віртуозы сцэны" ў клубе імя Дзяржынскага**

*15 і 23* — "Галасы", прэм'ера спектакля ў пастаноўцы У. Гасцюхіна, як акцёра вядомага па фільмах "Вазьму твой боль", "Шляхціц Завальня", "Сын за бацьку", "Урга", "Нянавісць, дзеці хлусні" і інш., а таксама як рэжысёра фільма "Батанічны сад".
*16* — "Бедная Ліза"
*22* — "Дурнотнае каханне"

**Прадзюсерскі цэнтр "Альфа-радыё"**

ў клубе імя Дзяржынскага
*21* — "Чаравікі на тоўстай падэшве"

**Экран**

Зразумела, што нашыя анатацыі наўрад ці кампенсуюць гледачам і супрацоўнікам Белтэлерадыёкампаніі страту газеты "Беларускае тэлебачанне і радыё". Тым больш, што мы падаём як выданне культурніцкае выключна праграмы адпаведнага зместу. Але тым не менш...

**Беларускае тэлебачанне**

*15 студзеня, субота, 9.40* — **"Роднае слова"**. Перадача прысвечана 70-годдзю Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук. Дырэктар інстытута спадар Падлужны распавядзе пра тое, як навукоўцы працуюць над даведнікамі і слоўнікамі і як маецца Інстытут ва ўмовах двухмоўя.
*16 студзеня, нядзеля, 11.35* — **"Арт-клуб"**. Перадача на гэты раз прысвечана памяці народнага артыста Беларусі Уладзіміра Куляшова, акцёра Віцебскага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.
*16 студзеня, нядзеля, 16.25* — **"Партрэт у інтэр'еры"**. Гэтым разам перадача прымеркавана да 60-годдзя мастака Рыгора Несцерава і ягонай нядаўняй выставы ў Палацы мастацтваў.

**Канал "Культура"**

*15 студзеня, субота, 19.30* — дакументальны фільм "Марк Шагал — мастак з Расіі".

**Палітра**

У Палацы мастацтваў экспануюцца карціны цыклаў "Хрысціянства 2000" Аляксандра Чарніцкага (да 20 студзеня) і "Улюбёныя вобразы" Аляксандра Шастакова (да 30-га).

**Гастролі**

У канцы студзеня да нас прыязджае МХАТ Алега Яфрэмава. Праўда, кошты білетаў на спектаклі ў Доме афіцэраў вядомага па ўсім свеце тэатра немалыя — ад 2000 да 6500 рублёў.
*25* — "Гульні жанчын" (рэжысёр — сам Кшыштаф Зануссі)
*26* — "Кантракт на забойства"
*27* — "Прывіды"
А *5 і 6 лютага* ў тым жа будынку Дома афіцэраў Міжнародны фестываль "Шэдэўры сучаснага тэатра" прадставіць нашумелую прэм'еру "Чайкі". У ролях — І. Алфёрава, Л. Дураў, М. Глузскі ды іншыя.

**Падрыхтаваў Кірыла ПАЗНЯК**

## Куды пераехаў кірмаш?

***Да нядаўняга часу ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі працаваў кніжны кірмаш, які карыстаўся вялікай папулярнасцю мінчан і гасцей сталіцы. Куды ён пераехаў? Дзе можна набыць па больш нізкіх цэнах патрэбную літаратуру, вучэбныя дапаможнікі?***

***На гэтыя пытанні мы папрасілі адказаць выканаўчага дырэктара Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў Вячаслава ЛУКАШЫКА.***

— Сапраўды, кніжны кірмаш, арганізатарам якога з'яўляецца Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў і які традыцыйна працаваў у Мінскім палацы дзяцей і моладзі, "пераехаў". І цяпер мы запрашаем мінчан і гасцей сталіцы, усіх сапраўдных прыхільнікаў кнігі на наш кірмаш па новым адрасе: вул. Даўмана, 23, лёгкаатлетычны манеж "Дынама". Праехаць туды можна трамваямі да прыпынку "Камсамольскае возера".

Кірмаш працуе ў суботу з 4.00 да 8.00. Па нядзелях з 8.00 да 14.00.

Дадатковую даведачную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне 223-86-24.